# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

2 МАЯ 2003 г. № 18—19/4204—4205 КОШТ 530 РУБ.




# «МАЛАДОСЦІ» — 50! ЯНА — МАЛАДАЯ І ПРЫВАБНАЯ!



МАЛАДЫЯ АЎТАРЫ Ў РЭДАКЦЫІ "МАЛАДОСЦІ".

# ЛАЎРЭАТЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 2002 ГОДА Ў ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ

*У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ:*

**імя Якуба Коласа (за творы прозы)**

**ЖУРАЎЛЁЎ Васіль Пракопавіч,** доктар філалагічных навук, загадчык аддзела гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя дзяржаўнай навуковай установы "Інстытут літаратуры" імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі", член грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў", — за кнігу "У пошуках духоўных ідэалаў: На матэрыяле беларускай літаратуры XIX — пачатку XX ст.", апублікаваную ў 2000 годзе;

***за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва***

**САВІЦКІ Аляксандр Ануфрыевіч,** пісьменнік, член грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў", — за кнігу для дзяцей "Дзівосы Лысай гары", апублікаваную ў 1999 годзе;

**імя Кастуся Каліноўскага (за работы ў галіне мастацкай публіцыстыкі (літаратура, мастацтва)**

**САЛАМАХА Уладзімір Пятровіч,** намеснік галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва" рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва", член грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў", — за кнігу літаратурнай публіцыстыкі і рэцэнзій "Званыя і выбраныя", выдадзеную ў 1999 годзе, і публіцыстыку апошніх гадоў.

*У ГАЛІНЕ МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ:*

**за музычныя творы буйных і малых формаў, а таксама за канцэртна-выканальніцкую дзейнасць**

**ХАДОСКА Алег Ігаравіч,** кампазітар , член грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз кампазітараў", артыст Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Рэспублікі Беларусь імя Р. Шырмы ўстановы "Беларуская дзяржаўная ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармонія", — за сімфонію нумар 1 "Пакаянная" і твор для змешанага хору "Усяночная", выкананыя ў 1997—1998 гадах;

**за шырока прызнаныя работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў, мастакоў, сцэнарыстаў, кампазітараў і драматургаў, аператараў у пастаноўках тэатраў, кінастудый, на тэлебачанні і радыё**

**КУЗНЯЦОЎ Вячаслаў Уладзіміравіч,** кампазітар, загадчык кафедры інструментоўкі, аранжыроўкі і чытання партытур установы адукацыі "Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі", член саюза кампазітараў, — за музыку да балета "Макбет" і абрад-дзейства для народнага хору "Беларускае вяселле", выкананыя ў 1999—2001 гадах;

**за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва, дызайну**

**ШКАРУБА Валерый Фёдаравіч,** мастак-жывапісец, член грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў", — за серыю пейзажаў "Спрадвечнае", выкананых у 1997—2000 гадах;
**ПАПЛАЎСКІ Георгій Георгіевіч,** мастак, кіраўнік майстэрні графікі дзяржаўнай установы культуры "Творчыя акадэмічныя майстэрні жывапісу, графікі і скульптуры", народны мастак Беларусі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, правадзейны член Акадэміі мастацтваў Расіі, — за серыю акварэляў "Браслаўскі альбом" і цыкл графічных работ па матывах творчых паездак па Інданезіі і Кубе, выкананых у 1997—2001 гадах;
**ДРАНЕЦ Аляксандр Валянцінавіч,** скульптар, выкладчык установы адукацыі "Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў", член грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз мастакоў", скульптар праекта, **ЛЕВІН Леанід Мендзелевіч,** архітэктар, кіраўнік прыватнага унітарнага прадпрыемства "Творчая майстэрня архітэктара Левіна Л. М.", заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Ленінскай прэміі, архітэктар праекта, **ІЎЛІЧАЎ Віктар Паўлавіч,** архітэктар, дырэктар навукова-праектнага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "БЕЛНДІПГОРАДАБУДАЎНІЦТВА", архітэктар праекта, **ЛЕВІНА Галіна Леанідаўна,** архітэктар, галоўны архітэктар прыватнага унітарнага прадпрыемства "Творчая майстэрня архітэктара Левіна Л. С.", архітэктар праекта, — за архітэктурна-мануменатльны ансамбль забудовы цэнтра г. Давыд-Гарадка з помнікам князю Давыду, створаны ў 1998—2000 гадах;

**за арыгінальную архітэктуру грамадзянскіх, прамысловых збудаванняў у горадзе і ў вёсцы**

**НАВУМАЎ Мікалай Сцяпанавіч,** архітэктар, галоўны архітэктар праектаў праектна-камунальнага унітарнага прадпрыемства "Мінскпраект", аўтар і архітэктар праекта, **РУШАЎ Юрый Сцяпанавіч,** інжынер-будаўнік, галоўны інжынер праектаў таго ж прадпрыемства, галоўны інжынер праекта, **ВАЎЧЭЦКІ Леанід Барысавіч,** інжынер-гідратэхнік, заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь, інжынер праекта, — за архітэктурны праект аўтавакзала "Маскоўскі" ў Мінску, здадзенага ў эксплуатацыю з 1999 годзе.



***Аднаму з самых вядомых літаратурных часопісаў у Беларусі — "Маладосці" — споўнілася 50 гадоў. У сувязі з юбілеем галоўны рэдактар часопіса "Маладосць", знакамітая беларуская паэтэса, лаўрэат***

# ДАЁМ ШЫРОКУЮ ДАРОГУ МАЛАДЫМ

***Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Раіса Андрэеўна БАРАВІКОВА адказала на пытанні карэспандэнта штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва".***



**— З якім настроем вы сустракаеце юбілей? Што б вы хацелі пажадаць часопісу, які ўзначальваеце?**

— Настрой у мяне, канечне ж, працоўны. Пра 50-годдзе часопіса прайшла шырокая інфармацыя ў нашым друку. Юбілей часопіса згадвалі шмат якія выданні. У прынцыпе, увесь 2003 год для нас юбілейны. Часта сустракаемся з самымі рознымі чытацкімі аўдыторыямі, увесь час нагадваем, што "Маладосць" адно з нашых старэйшых выданняў, што часопіс друкуе ў першую чаргу маладых творцаў. Хаця, публікуем і іншых пісьменнікаў самых розных узростаў... Жывём не ў лепшыя для нашай літаратуры часы: моладзь арыентуецца на камп'ютэрныя сістэмы, на Інтэрнет. Кніжны рынак цяпер вельмі перанасычаны самай рознай друкаванай прадукцыяй. Чытач можа задаволіць практычна любы свой інтарэс. Мы павінны ўлічваць вопыт канкурэнцыі. "Маладосць" мусіць арыентавацца на самае цікавае і таленавітае. Дзе толькі гэта магчыма, я кажу: нашы перыядычныя выданні павінны вярнуцца ў школьныя бібліятэкі. Школа павінна прывіваць любоў да літаратуры, як і сям'я. Бо свет кніжкі адкрываецца ў дзяцінстве.

**— Раскажыце крыху пра гісторыю вашага часопіса.**

— "Маладосць" можа толькі ганарыцца тым, што ў розныя часы на старонках выдання друкавалі свае творы самыя яркія постаці нашай літаратуры: В. Быкаў, У. Караткевіч... У адным з інтэрв'ю мне неяк задалі цікавае пытанне: "Маладосць" якога перыяду для вас найбольш дарагая?" І ёсць толькі адзін адказ: відаць, гэта час маёй маладосці, тыя самыя 70-я гады мінулага стагоддзя, якія падчас "перабудовы" чамусьці былі названы застойнымі гадамі. Літаратурнае пакаленне, да якога належу я, дало нашай літаратуры шмат імёнаў. У "Маладосці" я пачала друкавацца амаль у адзін і той жа час з Я. Янішчыц, А. Разанавым, Т. Бондар, В. Коўтун, В. Гардзеем, У. Някляевым, Ю. Голубам, В. Ярацам... Я, бывае, бянтэжуся, на мне вялікая адказнасць менавіта як галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць", таму што ў розныя часы гэты часопіс узначальвалі вельмі яркія постаці нашай літаратуры. Першым яго рэдактарам быў вядомы празаік, які шмат зрабіў для літаратуры — А. Кулакоўскі. Потым галоўнымі рэдактарамі былі П. Панчанка, А. Асіпенка, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, А. Грачанікаў, Г. Далідовіч... Усе яны вельмі таленавітыя, яркія творцы, сапраўдныя асобы.

**— Што вы можаце сказаць пра літаратурную частку вашага выдання?**

— Усё залежыць ад твораў, якія мы атрымліваем. Прозы і паэзіі ў нас хопіць на некалькі гадоў наперад. Стараемся даць шырокую дарогу маладым творцам. Вызначаем па таленту, адметнасці твора, наколькі ён будзе цікавы сучаснаму чытачу. Хочам увесці новую рубрыку "Мы — за межамі Беларусі", у якой будзем расказваць пра літаратурныя выданні, мастацтва, культуру, выставы нашых творцаў за мяжой, удзел музыкантаў у шматлікіх міжнародных конкурсах. У нашым мастацтве шмат таленавітых людзей, якія ўзнагароджваюцца на міжнародным узроўні прызамі, адзначаюцца рознымі іншымі ўзнагародамі. Хацелася б, каб нашы чытачы ведалі, якое багацце мы маем. Мы — нацыя, вельмі багатая на таленты.

**— З якімі праблемамі сутыкаецца сучасная "Маладосць"?**

— Асноўная праблема — узаемаадносіны "часопіс — чытач". Хацелася б бачыць шмат падпісчыкаў, каб кожны чытач стаў нашым, менавіта падпісчыкам, бо кожнае выданне павінна імкнуцца да самаакупнасці. Усё залежыць ад накладу, і таму хочацца сказаць: не проста чытайце "Маладосць", але і падпісвайцеся! Кожны наш нумар — гэта практычна кніга, і праз 20—30 гадоў ён будзе ўжо гістарычнай рэдкасцю.

**— Пагадзіўшыся рэдагаваць часопіс "Маладосць", вы мелі досвед рэдактарства часопіса "Алеся"...**

— Гэта зусім розныя рэчы. "Алеся" — папулярнае выданне для жанчын і сям'і. На сёння такіх выданняў шмат. Дадатак да "Алесі" "Светлица" дае тое, што ёсць у кожным выданні. Таму для творчага чалавека вялікай пашанай з'яўляецца праца менавіта ў чыста літаратурным выданні, бо, рэдагуючы літаратурны твор, штосьці дадаеш і да свайго літаратурнага вопыту, вучышся сам. Увогуле, пісьменнік вучыцца ўсё жыццё. Свой жыццёвы вопыт, інтэлект ён скарыстоўвае ў сваіх творах. Я лічу для сябе вялікім гонарам працаваць у літаратурным выданні.

**— Як вы бавіце вольны час?**

— Шчыра кажучы, у мяне заўсёды суцэльная занятасць. Хапае працы ў рэдакцыі, але ёсць жа яшчэ клопат і дома, за сваім пісьмовым сталом. І я ж маці, гаспадыня, жонка і люблю сваіх сямейнікаў. Цяжар, які лягае на маіх, праўда, не надта крохкіх, плячах, — не з лёгкіх. Нашы беларускія жанчыны — і руплівыя, і цярплівыя. Таму нічога гэтага я не адкідваю ад сябе.

**— Падзяліцеся сваімі творчымі планамі.**

— Вельмі хочацца напісаць цікавую, неардынарную кніжку для дзяцей, падлеткаў. Бо калісьці даўно я сама пачынала вучыцца характву жыцця з кніжак, з казак, якімі зачытвалася. Калі б удалося напісаць кніжку, якою можна было б зачытацца, я лічыла б сябе шчаслівым чалавекам.

**— Чаго б вы хацелі пажадаць свайму часопісу?**

— Каб ён і надалей заставаўся любімым выданнем, якім быў на працягу ўсіх гэтых 50 гадоў, каб вытрымаў націск канкурэнцыі (калі можна так сказаць пра літаратуру), і каб ён заставаўся такім яшчэ 50 гадоў. Чытач можа пазнаёміцца больш падрабязна з гісторыяй часопіса з тых старонак, якія сёння аддае "Маладосці" "ЛіМ", за што мы ўдзячны штотыднёвіку.



Супрацоўнікі "Маладосці": А. БАДАК, А. КАЗЛОЎ, В. ГАРДЗЕЙ і П. ГАСПАДЫНІЧ.

Гутарыла Святлана ЯВАР

# МАЛАДЫЯ — ПРА «МАЛАДОСЦЬ»



## МАЙСТРАМ РОБЯЦЦА Ў СПРАВЕ

Дык што для мяне ў маім жыцці значыць часопіс «Маладосць»? Пачалося ўсё з канца васьмідзесятых. Хваля нацыянальнага адраджэння і звязаная з ёй эйфарыя, адкрыццё новых старонак беларускай гісторыі, якое я, дзесяцігадовы хлапчук, рабіў для сябе праз часопісныя публікацыі «Старажытнае Беларусі» М. Ермаловіча. Гэта і «Бібліятэка часопіса «Маладосць», незабыўныя ўражанні ад кніг «Агмень» А. Сыса, «Гісторыя хваробы» А. Федарэнкі, «Вечны зніч» М. Скоблы засталіся ў памяці і па сённяшні дзень. І акрамя гэтага — пранікнёныя паэтычныя радкі Р. Барадуліна, В. Зуёнка, Н. Гілевіча, з прозы — В. Казько, А. Асіпенкі, А. Жука.

Яшчэ праз дзесяцігоддзе, у 1996 годзе — першая ўласная публікацыя вершаў — зноў-такі ў «Маладосці». І неўзабаве — знаёмства з калектывам рэдакцыі, якая тады яшчэ месцілася ў Доме прэсы каля Акадэміі навук... Ішлі на гэтую сустрэчу мы, першакурснікі філфака БДУ, з хваляваннем, якое адразу развеялася, калі нас цёпла прывіталі супрацоўнікі рэдакцыі. Універсітэцкі выкладчык Міхась Кенька прадставіў нас галоўнаму рэдактару Генрыху Далідовічу, загадчыкам аддзелаў прозы і паэзіі Анатолю Казлову і Віктару Гардзею. Нам распавялі пра часопіс, далі пагартаць рэдакцыйны рарытэт — экземпляр «Маладосці» ледзь не пяцідзесяцігадовай даўнасці. Пасля ўважліва выслухалі нашыя вершы, далі парады, словам, падтрымалі як мае быць. Праз колькі год мы адчулі рэальны кошт гэтае падтрымкі. У 2000 годзе Павел Гаспадыніч, Маргарыта Прохар і я пабачылі свае першыя кнігі, выдадзеныя ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць». Не магу не сказаць колькі слоў пра рэдактара сваёй кнігі. Ягоныя каштоўныя парады па змесце і стылі зборніка, жыццёвыя развагі і ўвогуле асоба гэтага выключнага чалавека зрабілі на мяне незвычайнае ўражанне, таму я зараз і лічу Казіміра Вікенцьевіча Камейшу адным з лепшых і цікавейшых людзей, з якімі мяне зводзіў лёс.

Зараз часопіс «Маладосць» годна працягвае традыцыі, напрацаваныя цягам дзесяцігоддзяў. Плёну, натхнення «Маладосці», няхай не згасае агмень беларускасці!

**Янка ЛАЙКОЎ**

•

Для мяне часопіс «Маладосць» заўсёды меў, прынамсі, дзве добрыя рысы.

Па-першае, гэта часопіс, дзе могуць друкавацца практычна нароўні і маладыя, і сталыя пісьменнікі (у гэтым сэнсе назва «Маладосць» не вельмі адпавядае рэчаіснасці з пункту гледжання ўзроставых суадносін, але дапасуецца да прыведзенага вышэй выказвання), што мае вынікам і большыя патрабаванні да якасці твораў, і асаблівы гонар ад публікацыі.



Па-другое, гэта часта крыніца твораў, якія немагчыма прачытаць дзе-небудзь яшчэ: новыя пераклады, творы са спадчыны, урэшце, найноўшая беларуская літаратура. А гэта значыць, што часопіс павінен быць запатрабаваны, у тым ліку і студэнтамі, і школьнікамі.

Хочацца верыць, што ніякія перамены не сапсуюць таго добрага, што ёсць; што дзякуючы «Маладосці» ў пісьменнікаў будзе магчымасць друкаваць напісанае, а ў цікаўных чытачоў (такія ёсць напэўна) — чытаць творы; а значыць, беларуская літаратура будзе надалей развівацца і жыць.

**Анжаліка ДУБАСАВА**

## А ЦУДЫ ЎСЁ Ж ТАКІ ЗДАРАЮЦЦА!

Калі жывеш у кватэры з мноствам люстэркаў, то хутка сам сабе будзеш здавацца нейкім адлюстраваннем... Зрэшты, мы ўсе толькі няўдалыя адбіткі Бога. Наша «запыстрэчча» — палон у кіпцях недасканаласці, адвечнай незадаволенасці сабой. Гэта выяўляецца яшчэ ў маладым узросце: здаецца, што на лесачках жыцця нельга спыніцца. Але ўгару падымацца значна цяжэй, чым падаць уніз, асабліва калі няма рукі, што падтрымае...

З цягам часу разумееш, што вышэйшая прыступка — гэта далягляд, які можа наблізіцца толькі цаной пераходу фізічнай істоты ў духоўную існасць творцы. Як кажа лацінская прымаўка: NON EST AD ASTRA MOLLIS E TERRA VIA (цяжкая дарога ад зямлі да зорак).

У кожнай дарогі — свой пачатак. У кожнага чалавека маладосць пачынаецца па-рознаму: з першага пацалунка, першага кахання або расчаравання і роздуму над сэнсам жыцця. Менавіта ў маладосці нараджаецца ці разбураецца назаўжды вера ў цудоўныя казкі і летуценні-крозы. Адну такую казку мне падаравалі «добрыя чараўнікі» (а па сумяшчэнні — рэдактары маёй першай кніжкі вершаў): Віктар Канстанцінавіч Гардзей, Генрых Вацлававіч Далідовіч і Казімір Вікенцьевіч Камейша. Потым чароўны свет «Маладосці» адкрывалі для мяне Раіса Андрэеўна Баравікова, Алесь Мікалаевіч Бадак, Вольга Куртаніч, Анатоль Казлоў...

Дзякуй за падтрымку і спагаду!

«Маладосць» пачынаецца з ВАС!

**P.S. А цуды ўсё-ткі здараюцца! Пра гэта можа сведчыць пяшчотная архідэя, прысланая мне незнаёмцам 14 лютага. Мабыць, самая таямнічая кветка на свеце, бо ў водарным яе шэпце я змагла разабраць толькі яго імя... Да сустрэчы на старонках «Маладосці», Яўген!..**

**Таццяна СІВЕЦ**

## ЯК БАРАДУЛІН ЗВЁЎ МЯНЕ З «МАЛАДОСЦЮ»

Усё пачалося з таго, што я, тады яшчэ ўзнёслае, наіўнае дзіця, навучэнец славутага Коласаўскага гуманітарнага ліцэя, напорыста і ўпарта, без цяперашняй залішняй сціпласці, прабіваў сабе шлях у мастацтва. І завялі мяне тыя шляхі-дарогі ў выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе тады рабіла славутая каманда на чале з любым Рыгорам Іванавічам Барадуліным (можна было б сказаць і народным паэтам, але ён для мяне ўпершарадзь настаўнік і вялікі чалавек, якому ўдзячны не толькі я адзін). Я прынёс кнігу паэзіі, і шчырае сэрца і воля гэтага чалавека накіравала мяне ў «Маладосць», дзе і з'явіліся мае першыя сур'ёзныя паэтычныя падборкі, проза, а пасля здаровай рэдактуры (прашу не блытаць з цэнзурай) таго ж Рыгора Іванавіча і падтрымцы найшаноўнейшых рэдактараў у легендарнай «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» (вельмі шкада, што яна загадала доўга жыць) выйшла і першая кніга.

Вось такая мая першая «прафесійна-мастацкая» гісторыя, якая, думаецца, была не толькі ў мяне аднаго, але і ў большасці маладых.

Гледзячы на прыгожы «палцінніка-вы» бальзакаўскі ўзрост любай «Маладосці», хочацца пажадаць такой жа маладосці духу, якая заўсёды панавала ў гэтай унікальнай рэдакцыі, дзе поруч з паэтам друкаваўся мастак, разам з новай аповесцю суіснавала здаровая крытыка (каб жа яшчэ драматургію!), побач з акадэмічнай традыцыяй вітапалася і наватарская нешараговасць, а таксама жадаю такой жа нязгаснай навядзёнкі адкрыцця маладых новых аўтараў, якая пры найменні ў нацыянальным мастацкім працэсе і кантэксце «Маладосці», будзем спадзявацца, не знікне НІКОЛІ!

**Сяргей ПАТАРАНСКІ,**
**які адкрыў свету сваю першую кнігу паэзіі, сваю першую прозу, свой першы мастацкі вернісаж, дзякуючы часопісу «Маладосць».**

•

"Маладосць" — гэта нястомны пошук і бясконцае самаўдасканаленне. "Маладосць" — гэта актуальнасць і гістарызм, гармонія юнацкага імпэту і разважлівасць сталасці. "Маладосць" сустракае чытача і аўтара вялікім пытальнікам на вокладцы: хто ты? што ты маеш сказаць? Таму "Маладосць" — гэта наш голас, сустрэча, дыялог з чытачом і крытыкам, з самім сабою. "Маладосць" бясконцая, бо ў яе адвечна маладая душа яе рэдактараў.

**Ірына ПОЎХ**

•

Хацелася б, каб у гэтым выдатным часопісе друкаваліся творы абсалютна розных літаратурных напрамкаў, каб на ягоных старонках панавалі творчая свабода і гармонія свету. Хочацца пажадаць часопісу паболей разважлівых чытачоў і таленавітых аўтараў.

**Віка ТРЭНАС**



**НА ЗДЫМКАХ: фрагменты Рэспубліканскага семінара маладых літаратараў Беларусі, які праходзіў 13—14 сакавіка 2003 года.**

# ГІСТОРЫЯ «МАЛАДОСЦІ» Ў ЛІЧБАХ І ФАКТАХ

*1950-я*




**Сакавік 1953 г. — выйшаў першы нумар часопіса "Маладосць". Праўда, выхад яго крыху затрымаўся: якраз памёр Сталін, і калектыву рэдакцыі на чале з Аляксеем Кулакоўскім давялося тэрмінова пераверстываць ды здымаць некаторыя матэрыялы. Напрыклад, з першага на другі быў перанесены не да месца вясёлы дэбютны для часопіса верш "У скверы зялёным" на той час студэнта Беларускага дзяржаўнага універсітэта Ніла Гілевіча. Увогуле ж, аўтарамі першага нумара былі пісьменнікі, імёны якіх маглі б упрыгожыць любы літаратурны часопіс: Якуб Колас, Іван Шамякін, Максім Танк, Пімен Панчанка...**

**У № 9 за 1954 год "Маладосць" пачала друкаваць навукова-фантастычную аповесць Янкі Маўра "Фантамабіль прафесара Цылякоўскага". Але многія крытыкі палічылі твор якраз антынавуковым і абрушылі на тады ўжо вядомага і папулярнага пісьменніка такі шквал агню, што Маўр мусіў прыпыніць друкаванне аповесці. Дарэчы, на той час "Маладосць" мела аб'ём усяго ў 4 уліковавыдавецкія аркушы, і тое, што ў ёй пачалі друкаваць даволі вялікую рэч Янкі Маўра — было з'явай выключнай для часопіса. У асноўным на яго старонках з'яўляліся апавяданні альбо ўрыўкі з аповесцей.**

**Больш за тое, і тады, і заўсёды, галоўным клопатам часопіса было выхаванне і падтрымка літаратурнай моладзі. І ў 50-я гады мінулага стагоддзя менавіта "Маладосць" адной з першых разгледзела вялікі творчы патэнцыял Вячаслава Адамчыка, Рыгора Барадуліна, Дануты Бічэль-Загнетавай, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Грачанікава, Міколы Кусянкова, Уладзіміра Караткевіча, Алега Лойкі, Петруся Макаля, Івана Навуменкі, Уладзіміра Паўлава, Юрася Свіркі, Кастуся Цвіркі ды многіх іншых сёння прызнаных майстроў слова.**

**Сярод аўтараў "Маладосці" 50-х нечакана сустракаецца прозвішча П. Машэрава, які ў № 7 за 1953 год падзяліўся сваімі ўражаннямі пра паездку ў Бухарэст на IV Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. "Гасціннасць міралюбівай і свабоднай краіны ўдзельнікі фестывалю адчулі адразу пасля перасячэння румынскай граніцы, — піша будучы Першы сакратар ЦК КПБ. — На кожнай станцыі, кожным раз'ездзе сотні і тысячы лю-**

**(Працяг на 6-й, 8-й, 12-й стр.).**




# «МАЛАДОСЦЬ» НА ГАНЦАВІЦКІМ ПАЛЕССІ

Ёсць на Палессі вельмі ж цікавая і самабытная вёска, якую ў свой час, здаецца, ведала не толькі Берасцейшчына. Нават часопіс "Маладосць" гэты дзіўны балоцісты край не абмінуў пільнай увагай. Але ўсё па парадку, і — крыху гісторыі.

Даўным-даўно вёска Раздзялавічы, а менавіта пра яе вядзецца гаворка, была заснавана, як кажуць, у чорта на пятачку, удалечыні ад вялікіх дарог, за нейкія трыццаць пяць вёрст ад Ганцавіч. Доўгім і вузкім — усяго ў адну вуліцу — астраўком старажытнае селішча ўшчамілася паміж лясоў і балот, у вярхоўях ціхай і павольнай рачулкі Бобрык. Бездараж была спрадвечным ворагам тутэйшых сялян. Бывала, гразкі зімнік так перамяце снегам, што і на валах не праб'ешся ў "цывілізаваны свет". Вясной яшчэ горш — гразь, плюхоцце. Ды ўжо калі нехта і дапяльваў у Ганцавічы, то набіраў мыла, запалак, іголак, нітак поўную торбу, каб і сабе надоўга хапіла і каб з суседзямі было чым падзяліцца.

Але болей за ўсё раздзялаўцы пакутавалі ад малазямелля. Не было дзе пасадзіць бульбу, укінуць у глебу якую сявеньку жыта. Спрадвек сяляне навучыліся берагчы кожны лапік зямлі — карчавалі ляда, ураблялі ўсе прыдатныя для ральніцтва балотныя астраўкі. І ўсё ж свайго хлеба не хапала да вясны. Так жылі палешукі не адно стагоддзе. Ворнай зямлі — кот наплакаў, а вакол Раздзялавіч на тысячы гектараў раскінуліся непраходныя балоты і забалаці. Карысці ад іх было мала. Хіба што нехта ўваб'е стажок сена-разаку, назбірае лубянку чырвоных журавін.

Ды вось аднойчы, а дакладней, у 1972 годзе, на раздзялавіцкіх балотах, загаварачы словамі паэта, "зашумела, загуло, бы землетрасенне". На будаўніцтва новага саўгаса "Адраджэнне", які было вырашана заснаваць на асушаных тарфяніках, прыйшлі сотні маладых меліяратараў. Сённяшнім часам ім, так званым, "пакарыцелям палескай цаліны", выказваюць справядлівыя папрокі за неабдуманае, прагматычнае ўмяшанне ў прыроду, але не дзіўна, што на гэты конт маўчаць самі жыхары Раздзялавіч. Найпершым чынам цераз гаці і забалаці да вёскі была пракладзена асфальтаваная шаша, па якой няспынным патокам рынула магутная меліярацыйная тэхніка, машыны з будаўнічым рыштункам. Пачыналася, што абсалютна справядліва, новая біяграфія закінутай калісьці палескай вёскі Раздзялавічы. За кароткі час, які мінуў пасля "татальнага" наступу на балоты, тутэйшыя краявіды істотна змяніліся, стварэнне саўгаса "Адраджэнне" ўлады аб'явілі ўдарнай маладзёжнай будоўляй, і, мабыць, гэта якраз і было адной з прычын, што над вядомай у Беларусі будоўляй узяў шэфства часопіс "Маладосць".

Восенню 1975 года, калі новая гаспадарка ўжо трывала станавілася на ногі, а слава маладзёжнай будоўлі далёка разышлася па краіне, у Ганцавіцкі раён завітала на белай "Волзе" прадстаўнічая дэлегацыя часопіса: адказны сакратар рэдакцыі Леанід Дайнека, загадчык аддзела публіцыстыкі Сцяпан Кухараў, фотакарэспандэнт Валянцін Ждановіч. У абноўленай вёсцы Раздзялавічы яны заключылі дамову з кіраўніцтвам саўгаса, што называецца, на "вечную дружбу", і ўжо праз колькі месяцаў, у першым нумары за 1976 год, у "Маладосці" быў апублікаваны разгорнуты фотарэпартаж з месца падзей. Сцяпан Кухараў цікава апісаў гісторыю Раздзялавіч, Валянцін Ждановіч аздобіў тэкст выдатнымі фотаздымкамі: валовая запрэжка на вясковай вуліцы, суседскія хаты, якія ледзь не сутыкнуліся дахамі, і многае іншае. Трэба заўважыць, што тыраж часопіса дасягаў тады амаль 12 тысяч асобнікаў.

У той час, калі адбываліся гэтыя, у прамым сэнсе, гістарычныя падзеі, я працаваў у ганцавіцкай раённай газеце і, здаецца, дакладна магу ўзнавіць хроніку шэфскіх сувязяў "Маладосці" і саўгаса "Адраджэнне". Як толькі з друку выйшаў першы "раздзялавіцкі" фотарэпартаж, у Ганцавічы прыязджалі галоўны рэдактар Генадзь Бураўкін і выдатная беларуская паэтэса Яўгенія Янішчыц. У Раздзялавічах тады адбыўся вялікі творчы вечар, а што да гледачоў, то іх у новым вясковым Доме культуры было не пабіцца. І гэта не дзіўна: яшчэ і цяпер у вёсцы налічваецца больш за 1500 жыхароў. Маладзёжны часопіс для іх стаўся вельмі сур'ёзным і надзейным шэфам.

На працягу амаль цэлага дзесяцігоддзя са старонак папулярнага выдання не сыходзіла рубрыка — "Маладосць" у саўгасе "Адраджэнне". Пра добрыя справы гаспадаркі не адзін раз пісалі Сцяпан Кухараў, Алесь Гаўрон, Іван Рубін, многія іншыя пісьменнікі і журналісты. Што да паэтаў, то, прыязджаючы ў Ганцавічы, яны адразу кіраваліся ў былое "камарынае царства", г. зн. у Раздзялавічы. Тая ж незабыўная Яўгенія Янішчыц пры любой магчымасці старалася наведаць гэты дзівосны палескі кут, які палюбіла ўсім сэрцам і якому прысвяціла нямала сваіх цудоўных вершаў. Помню паэтэсу побач з Генадзем Бураўкіным, Васілём Жуковічам, Васілём Якавенкам.

У 1978 годзе на Ганцавіцкім Палессі быў шаноўным госцем народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Вынікам ягонай "раздзялавіцкай" вандроўкі стала самабытная паэма "Пачатак", якая, зноў-такі, друкавалася ў часопісе "Маладосць". Па просьбе рэдакцыі матэрыялы з падшэфнай гаспадаркі рыхтавалі і супрацоўнікі мясцовага друку. Цікава, што ў 1983 годзе, калі часопіс адзначаў сваё трыццацігоддзе, на юбілей з палескімі падарункамі і добрымі пажаданнямі ў Мінск ездзіў намеснік дырэктара саўгаса "Адраджэнне" Павел Шуляк, на той час таксама актыўны аўтар маладзёжнага выдання.

Калі глядзець з вышыні сённяшняга дня, клопат пра будаўніцтва палескага саўгаса "Адраджэнне" быў яркай і адметнай старонкай у паўвекавой гісторыі часопіса "Маладосць", пра што цяперашнія аўтары і чытачы, бадай, нічога не ведаюць. У той жа самы час займалася рэдакцыя і дабрачыннымі справамі: апекавала дзіцячы дом у Радашковічах, збірала для дзяцей-сірот кнігі і каштоўныя падарункі, шмат пісала на тэмы выхавання малалеткаў, якія па розных прычынах засталіся без бацькоў. Асобныя нумары часопіса, як, напрыклад, № 4 за 1983 год, выходзілі адразу з дзвюма "шэфскімі" рубрыкамі: "Маладосць" у саўгасе "Адраджэнне" і "Маладосць" у Радашковіцкай школе-інтэрнаце".

**Віктар ГАРДЗЕЙ**



Адкрыццё мемарыяльнай дошкі Анатолю ГРАЧАНІКАВУ.


Генадзь Бураўкін і Аркадзь Куляшоў. 1973 год.

**Сцяпан ГАЎРУСЁЎ**



•

*Вясна —*
*Гарэзная дзяўчына —*
*За светлы час красы кароткай*
*Ва ўсіх мільгне перад вачыма*
*Сваёю лёгкаю паходкай.*

*Хадой спакойнай пройдзе лета,*
*Як прыгажуня-маладзіца,*
*Што ласкай шчасця абагрэта*
*І на сябе не наглядзіцца.*

*А восень ступіць ціхім крокам —*
*Абедзве занятыя рукі —*
*У фартуху сваім шырокім*
*Нясе, як маці, падарункі.*

*Адна зіма у хустцы белай*
*На печы сядзе, як бабуля,*
*І казкі баіць вечар цэлы*
*Унукам, што даўно заснулі.*

**"Маладосць" № 4, 1957 г.**

**Юрась СВІРКА**



## НОЧ У ГАРАХ

*Туман праваліўся у пушчу далін,*
*Вяршыням прыкрыўшы галовы.*
*Месяц шчаку да скалы прытуліў.*
*Гукі няясныя ловіць.*

*Прыглушана нешта грыміць угары,*
*З шумам ляціць у бяздонне.*
*То коціцца камень з высокай гары,*
*То птушка крычыць спрасоння.*
*То піхта старая падчас зарыпіць,*
*І больш аніякіх гукаў.*
*Здаецца, каб крок*
*нерашуча ступіў —*
*І ён перарос бы у грукат.*

**"Маладосць" № 6, 1957 г.**

**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ**



## ІМКНЕННЕ

*То не коні ўскапыцілі снег*
*У парыве імклівага руху,*
*То — вагоны паскорылі бег,*
*Пацягнулі з сабой завіруху.*

*Я да скорасці змалку прывык, —*
*Нат радзіўся ў дзіцячым вагоне*
*На далёкім начным перагоне,*
*Калі ў тыл прабіраўся цягнік.*

*У агні незабыўных падзей*
*Я, хрышчоны ваенным пажарам,*
*Стаў для бацькі адною з надзей,*
*А для маці — напэўна — цяжарам.*

*Толькі быў бесклапотны мой сон.*
*Я не ведаў, што, поўны трывогі,*
*Аддаляў нас ад дому вагон,*
*Набліжаючы да перамогі...*
*А цяпер цеплавоз аж дрыжыць, —*
*Выйшаў я на працоўную трасу.*
*І планета са мною ляціць*
*Па арбіце імклівага часу.*

**"Маладосць" № 10, 1962 г.**

**Рыгор БАРАДУЛІН**



•

*"На Беларусі*
*Пчолы як гусі". —*
*Прыгадваў зямляк*
*у выраі.*
*Зоры спелі,*
*зоры гаслі,*
*Мох зязюльчын*
*рос на вываратнях.*
*"Ем сырую зайчыну,*
*Ды люблю Айчыну!" —*
*Прысягаў паўстанец*
*нябёсам.*
*Дзверы дню маладому*
*расчынены —*
*Расой ішла*
*песня босая:*
*Я здыму парчу,*
*Ножкі абвярчу... —*
*Песню азяблую*
*Сагрэць хачу...*
*Стукнецца ў крыгу*
*касяк карасіны,*
*Сонную роўнядзь*
*успеніць.*
*Згару я*
*на вейцы тваёй*
*расінкай.*
*Беларусь —*
*мая мова*
*і песня.*

**"Маладосць" № 12, 1963 г.**

**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ**



•

*За вучобай я так запарыўся*
*І ўсё хвілі чакаў, калі*
*Я паеду туды, дзе парасткі*
*Прадзяўбалі кару зямлі;*

*Дзе вясною ключом*
*жураўліным*
*Адмыкаюцца сінія высі,*
*І на сцежках табун ласіны*
*Сотні месяцаў высек;*

*Дзе ў жнівні лысеюць арэхі,*
*І дзе вышыты кветкамі пожні,*
*Дзе у лесе зайздросным*
*смехам*
*Адгукнуцца дзяцінства можа:*

*Калі стоміцца дзень і*
*сцішыцца,*
*То ніяк не заснуць да зары,*
*Дзе мелодыі самі пішуцца,*
*Як аркестры, грымяць бары.*

**"Маладосць" № 1, 1962 г.**

**Еўдакія ЛОСЬ**



•

*Нясу я вершы ў "Маладосць"...*
*Юнацкім часам так рабіла,*
*і доля нас не разлучыла,*
*і ў сталы час я тут не госць.*

*Я тут не госць,*
*я тут свая,*
*хоць трошачкі, ды гаспадыня, —*
*і галасамі маладымі*
*натхняецца душа мая.*

*Люблю юнацкі гарт і злосць,*
*калі з яе дабро імкнецца...*
*Нясу я вершы*
*ў маладосць*
*і спадзяюся: адгукнецца!..*

**"Маладосць", № 8, 1975 г.**



літаратурны квартал

24 красавіка сябры суполкі "Літаратурны квартал" сабраліся, каб пагаварыць пра літаратурную крытыку. Наталля Дзянісава, якая набывае вядомасць у якасці крытыка, паспрыяла таму, каб завязалася цікавая дыскусія. Вядома, крытыка на адрас крытыкі гучала не заўсёды канструктыўная — не кожны ўмее разумна прымаць заўвагі на свой адрас.

У гаворцы бралі ўдзел Сяргей Патаранскі, Ігар Клепікаў, Мікола Касцюкевіч, Таццяна Будовіч, Алег Алекса, Рагнед Малахоўскі, Мікола Кандратаў, Цімох Струпавец, Вольга Кардаш, Юрась Нераток, Насця Анохіна, Наталля Кучмель, Наталля Капа, Сяргей Мінскевіч, Віка Трэнас, Павел Астравух, Алена Астравух, а таксама кіраўнік "Літаратурнага квартала" Людміла Рублеўская.

Наступны раз сябры суполкі сустрэнуцца 8 мая а 18 гадзіне.

## ЧАСАПІС

**дзей горача віталі дэлегатаў, уручалі ім букеты кветак, запіскі, асабістыя падарункі". Паводле яго слоў, у фестывалі ўдзельнічала больш за 30 тысяч юнакоў і дзяўчат са 111 краін свету, на ім праводзіліся шматлікія міжнародныя мастацкія конкурсы, і "ўсе савецкія ўдзельнікі конкурсаў занялі прызавыя месцы". Менш пашанцавала прадстаўнікам капіталістычных краін, у якіх "наглядаецца заняпад мастацтва".**

**У 1958 годзе А. Кулакоўскі быў звольнены са сваёй пасады: гэткім чынам ён паплаціўся за аповесць "Дабрасельцы", у якой высмейваў сучасных яму кар'ерыстаў і дэмагогаў.**

**Месца галоўнага рэдактара заняў Пімен Панчанка, які, трэба сказаць, неўзабаве сваімі вострапубліцыстычнымі вершамі пачаў не меншую барацьбу з тымі ж кар'ерыстамі і дэмагогамі.**

**А на мяжы двух дзесяцігоддзяў — у 1960 г. — "Маладосць" надрукавала першы вялікі твор пра вайну Васіля Быкава "Жураўліны крык".**

***1960-я***

**У 60-я гады "Маладосць" выходзіць у павялічаным аб'ёме — 13,7 умоўна-друкаваных аркушаў. Але вырас не толькі аб'ём, а таксама і цана: з 2 рублёў старымі грашыма да 40 капеек — новымі. Ці не гэта стала прычынай таго, што тыраж часопіса ўпаў адразу больш, чым у 2 разы.**

**Аднак неўзабаве тыраж пачаў зноў расці. Яно і не дзіўна. Менавіта ў "Маладосці" Васіль Быкаў у 1962 годзе надрукаваў аповесць "Трэцяя ракета", у 1964-м — "Альпійскую баладу", у 1965-м — "Мёртвым не баліць", у 1968-м — "Праклятую вышыню".**

**У 1962 годзе на старонках "Маладосці" пабачыў свет раман Івана Навуменкі "Сасна пры дарозе", а ў 1967-м — працяг гэтага вядомага твора (зрэшты, сёння не менш вядомы) "Вецер у соснах".**

**У 1964 годзе часопіс друкуе славутае "Дзікае паляванне караля Стаха" Уладзіміра Караткевіча, а праз тры гады — другую ягоную аповесць "Чазенія".**

**Прыкметнай з'явай у літаратурным жыцці Беларусі стала і аповесць Івана Шамякіна "Ах, Міхаліна, Міхаліна", якая з'явілася на старонках "Маладосці" ў 1966 годзе.**

**У тое дзесяцігоддзе на старонках часопіса з'явіліся першыя творы Раісы Баравіковай, Віктара Гардзея, Юркі Голуба, Мар'яна Дуксы, Алеся Жука, Сяргея Законнікава, Казіміра Камейшы, Валянціны Коўтун, Ніны Мацяш, Сяргея Панізніка, Алеся Разанава, Рыгора Семашкевіча, Анатоля Сербантовіча, Яўгеніі Янішчыц...**

**У 1966 годзе месца галоўнага рэдактара "Маладосці" заняў Алесь Асіпенка.**

**(Працяг на 8-й стар.).**

**НАДРУКАВАНА Ў "МАЛАДОСЦІ"**

# ЗНЯВОЛЕННЕ НА ВОСТРАВЕ СВАБОДЫ

*— Значыць, Бог не будзе жыць у словах? — спытала яна.*

*— Не, Ён застанецца у іх, — адказаў Ілля. — Але кожны чалавек будзе адказваць перад Ім за ўсё, што напіша.*

*Яна дастала з рукава плацця гліняную таблічку, на якой было нешта напісана.*

*— Што гэта значыць? — спытаў Ілля.*

*— Гэтае слова азначае — любоў.*

**(П.Куэльё, "Пятая гара")**

Сённяшняя жаночая літаратура (і наша, і замежная) падобная да дзяўчыны, якая аддаецца (штораз як бы страчваючы нявіннасць) толькі дзеля таго, каб наноў выгадна выйсці замуж (займець свайго чытача) і быць запатрабаванай (купленай)... Аднак, апроч забавы і не надта прыхаванай парнаграфіі, такая літаратура намагаецца пакінуць у чытачоў яшчэ і ўражанне гэткай чэхаўскай "душачкі" ці нешта блізкае да колішняга паэтычнага вобраза П.Кошаля: "душа, как девушка, чиста, а девушке уже за тридцать"... За саветамі, памятаеце, нават клубы знаёмстваў такія былі "для тых, каму за 30".

Але ў нашым — *празаічным* — выпадку, ці то па наіўнасці, ці то з прычыны празмернага сябелюбства, барацьба вядзецца не толькі за наіўнага і аблудлівага чытача, але і за ўласнае месца на літаратурным Алімпе, калі не ў якасці "рымскіх матронаў", то хоць бы ў якасці "жонак Цэзара"...

Цнатлівасць у іх тэкстах аддаецца на водкуп вульгарнасці, якая, у рэшце рэшт, гвалтуецца цынізмам. Трусікі, ліф, цыцкі, смочкі, бугарок, трохкутнік, вільготнае лона, член, жэзл, нефрытавы ствол, кантрацэптыў, прэзерватыў, палавы акт, эякуляцыя, коітус, сперма, аргазм — вось асноўны набор філалагічных (і фаласафічных) "рыцарскіх даспехаў" некаторых сучасных літаратурных дам, палюючых на інтэлектуальна беднага "кліента", дарэчы, не толькі ў прозе, а падчас і ў паэзіі... *Аддаюцца* аўтары (у тым ліку і *мужчыны*!) гэтага лёгкага жанру, можна сказаць, задарма (вядома, у вобразах сваіх герояў і гераінь) — толькі вазьмі і авалодай... Зрэшты, лёгка сказаць (і напісаць — таксама!), а насамрэч — паспрабуй, асабліва ў інтэлігентным узросце і спартанскіх умовах... Аднак спрабуюць і — атрымліваецца не горш, чым у Галівудзе...

«*Ён павярнуўся да мяне, падышоў: юдольнік беспрытульнасці, напоўнены спагадлівасцю і семем, усеабдымны сузіральнік; ягоная пастава выяўляла пажаднасць, ён сціснуў мяне ў абдымках, і я адчула, як уздыбіўся жэзл, на якім сам Усявышні паставіў пячатку, калі рабіў свайго першачалавека (згодна з яўрэйскай легендай, Адам быў створаны абрэзаным — заўвага аўтара цытуемага мной тэксту) адчувала рукі, якім удалося зняць вопратку, яе лётка-лёгкае ападанне; бясконцае расхінанне ўлоння, слодыч раптоўнага ўдару, роўнага ўдару маланкі, што прасякае сусвет; выспельванне плоці — спажыў для абраных вясельнікаў; жарсць, неспатольнасць; узмоцненасць гартаванага ціску, невыносна-пякучага болю душы, далучанай да Кахання і трагедыі Смерці; пешчанае сукрытым аратаем плоднае "янь"; апраменьванне, выбух КРЫКУ...да самюткага дна...семя праб"е дарогу...хай прарасце семя з семені; салодка-духмяная саманапоўненасць, спеласць сакавіта-крывавых зерняў гранату — пад нашымі вуснамі нашых укусаў...боль ад рабрыны стала пад ягадзіцамі; лагодны струменьчык па аслаблых нагах; апатыя міласэрнасці; наканаваная ні-ко-лі-не-спатоль-насць...*"

Не ўсякі да канца й дачытае, адчуўшы на сабе той "*лагодны струменьчык на аслаблых нагах*"... Прынамсі, асабіста для мне нешта падобнае ўяўляецца малаверагодным, і памысным, бадай, толькі ў юрлівых летуценнях. Ці то я такі мужык недалужны, ці то героі працяганага тэксту настолькі *майстравітыя*, ці то сам аўтар?..

Зрэшты, чаму тут здзіўляцца, бо вось, да прыкладу, свежая вытрымка з інтэрв'ю расейскай літаратаркі Юліі Латыніной адной, шырока запатрабаванай нашымі пятнічнымі жанчынамі, камсамольскай газеце.

Карэспандэнт пытае: *"Некоторые критики обвиняют вас в том, что вот, мол, Латынина — образованная барышня, из потомственной интеллигенции, а злоупотребляет фаллическими метафорами. Типа "завод стоял, как член в брачную ночь" или "сник, как хрен после соития"...*

На што пісьменніца, не міргнуўшы вокам, выпальвае: *"Я пишу мужскую и вполне целомудренную прозу. Подумаешь, отыскали пару метафор"*... Без каментару.

(Альбо: **што**, шчыра скажам, адкпалася ў душы чытача, апроч паказнога інтэлектуальнага досведу і непрыхаваных жаночых комплексаў аўтаркі, пасля прачытання такога разрэкламаванага ў свой час на духоўна спустошаных прасторах былой эсэсэсэршчыны рамана Аксаны Забужкі "Палявыя даследы ўкраіскага сексу"?..)

Аднак перапрашаю. Гэта ўсяго толькі мае ўласныя мройлівыя прыкіды да азначанай тэмы — разгаўленне літаратурнага імпатэнта. Мяркую, акрыяўшы, недзе ўлетку я ўсё ж паспрабую падступіцца да яе ўшчыльную...

Сёння ж — *пра адваротнае*. Хоць і не зусім. Бо таксама — пра жаночую прозу, але іншага — **мастацкага** — кшталту.

Прамінулым годам Юры Станкевіч "затлуміў" мне галаву адной сваёй "класнай зямлячкай", барысаўчанкай. І нават "праціснуў" праз крытычны заслон "неистового Виссариона" (чытай Анатоля Сідарэвіча) у часопіс "Крыніца" яе вострасюжэтную і ў пэўнай меры псіхалагічную аповесць "Бязлітасны мой воін" (у якой яшчэ моцна адчувалася не так стылёвая, як "сталёвая" рука самога Ю.Станкевіча)... І нічога дзіўнага ў тым не было, бо аўтарка, нарадзіўшыся ў абруселым вайсковым горадзе, напачатку змушана, а пасля ўжо і звычна карысталася мовай яго нецывільных прышэльцаў. Нават зборнік рускамоўных вершаў паспела выдаць ("На глубине корней"). Там, дарэчы, траплялiся выбітныя радкі, якія вызначалі не толькі прамінулае, але і цяперашняе жыццё аўтара — яго стыль, характар і творчае мысленне. Запомнілася страфа з "Оды классической литературе":

*.....Увы, ведь так легко,*
*когда душа податливее воска,*
*принять за жизнь, которую*
*не знаешь,*
*ее литературные портреты.*

Аднак перад тым здарылася ў яе (аўтаркі і гераіні рэцэнзуемага тут твора) любоў да іспанскай мовы. На журфаку БДУ падчас "гарбачоўскай перабудовы" з"явіўся кубінец-прыгажун Рэйнальда. Таму, **што** было першаснае, **што** другаснае, быццё ці свядомасць, сказаць цяжка, хоць аўтар не прамінае падкрэсліць, што *"не подзвігі ў ложку майго вогнепаклонніка, у антрацытавых вачах якога палымнелі афрыкана-іспана-індзейскія жарсці, захапілі мяне, васемнаццацігадовую; будучы рамантыкам, я паддалася салодкаму, чароўнаму ўздзеянню чужой мовы. Так, гэта быў раман менавіта з самім El Castellano, і тут, у адрозненне ад зямнога ложка, я лёгка адчувала захапленне паўнавартаснага аргазму"*. Агулам, гэты неардынарны для жаночай літаратуры тэкст вылучаецца гарманічнай узважанасцю, зладам душы і плоці, з усведамленнем гераіняй сваёй грахоўнасці і глыбокім прадуманым аналізам пражытага і перажытага...

Кожны высокамастацкі літаратурны твор, на маё меркаванне, павінен адпавядаць тром вызначальным патрабаванням: а) быць чытэльным, а значыць, адносна сюжэта, досыць займальным і цікавым для ўсякага адукаванага чалавека; б) выхоўваць чытача ("давать пишу для ума и сердца"), класічна кажучы: "абуджаць добрыя пачуцці, прагу да свабоды і літасць да паўшых"; в) прарочыць, а значыць, зазіраць у ледзь прагляды пралом будучага, пакідаць нашчадкам інфармацыю пра свой пэўны час (эпоху) і інтэлект тагачаснага чалавека (грамадства, народа, нацыі, дзяржавы).

Калі хоць якое звяно выпадае з гэтага адзінацэлага ланцуга — твор рассыпаецца, аўтар "адвязваецца" і апынаецца па-за кантэкстам чалавечага жыцця, да якога ён быў "прывязаны" сваім творчым досведам...

Сапраўдны прафесійны крытык, як літаратурны ювелір, не павінен браць для сур"ёзнага "разгляду" штучна "зробленыя" (на заказ ці патрэбу)




тэксты дзеля аздаблення (ўзбагачэння) аўтарскага іміджу. Твор павінен быць тоесным аўтару і выяўляць яго натуральны "ісцінны" твар...

Напэўны, вы заўважаеце, што і ў маім гэтым тэксце таксама ўсё рассыпаецца на дробныя фрагменты, *але не губляецца паасобна, а*, быццам у калейдаскопе, пры кожным "сюжэтным" павароце прыцягваецца да кучы і складваецца ў адну карціну... Прынамсі мне так думаецца і гэтага хочацца.

Тым больш наспеў час адкрываць карты.

Я гавару тут пра пісьменніцу Алену Брава, імя якой вынесена на вокладку трэцяга нумара часопіса "Маладосць" поруч з назвай яе твора "Каменданцкі час для ластавак". Аповесць блізкая да аўтабіяграфічнай. Коратка пра сюжэт: студэнцтва, каханне да іншаземца, шлюб, нараджэнне дзіцяці, выезд з радыяцыйнай Беларусі на Кубу, драматычнае жыццё на востраве Свабоды, расчараванне, выжыванне, растанне, вяртанне (як там у рускага класіка: "и божество, и вдохновенье, и жизнь, и слезы, и любовь")... Аднак не ў маім стылі пераказваць сюжэт рэцэнзуемага тэксту. Скажу толькі, што фабула інтрыгуючая і аповесць прачытваецца на адным дыханні.

Аднойчы Бог паслаў Алесю Ставеру творчае прасвятленне і ён напісаў запамінальныя песенныя радкі: "Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць"... Нешта падобнае адбылося і з Аленай Брава. Пабыўшы "ў гасцях", яна перажыла духоўную эвалюцыю: яшчэ больш палюбіла сваю Айчыну, нягледзячы на тое, што *"свет, у якім мы былі абавязаны стаць шчаслівымі, быў забруджаны крывадушнасцю, як радыяцыяй"*. Зрэшты, ужо і ў вышэй упомненым "Бязлітасным маім воіне" пісьменніца спрабавала па-філасофску асэнсаваць сваё месца ў межах разумовага чалавечага досведу: "*Я веру ў тое, што душа чалавека яшчэ да яго цялеснага ўвасаблення сама выбірае сабе бацькоў і ўмовы нараджэння. Ты спытаеш:*

*навошта ж яна выбірае такіх бацькоў і такія ўмовы? Цяпер я схільная да меркавання, што Дух унутры нас робіць гэта з мэтай прайсці, нягледзячы на ўрон для знешняга існавання, праз нейкі Яму неабходны досвед, які толькі ў такіх умовах і можа ажыццявіцца."*

Дзіўны пасаж вычытаў я нядаўна ў вядомага французскага крытыка і філосафа Жоржа Батая: "*Нацыя прытрымліваецца ўяўлення, аднойчы складзенага пра яе, і хутчэй прызнае сябе знікнуўшай, чым ад яго адмовіцца*". І што ж, паводле француза, выходзіць, што ў Алены Брава як беларускі па нацыянальнасці няма аніякай пазітыўнай гістарычнай перспектывы, апроч той, якая была і ёсць?! Як жа тады быць і што дзеіць, прыняўшы словы Ж.Батая (і каб жа толькі яго!) за аксіёму і неабвержнае прароцтва? Ці не з гэтай прычыны мы, беларусы, такія зашуганыя, празмерна памяркоўныя, часцей не на сваю карысць, адданыя і пакорлівыя не толькі лёсу, але і знешнім праявам... Але ж любім сваю Айчыну, асабліва апынуўшыся наводдаль яе, такой, якой яна ёсць. Ну, калі не ўсю Айчыну агулам, дык хоць — кожны пасобку — бацькаўшчыну сваю малую (мілую)...

Алена Брава праводзіць такую прыхаваную паралель свайго-нашага з кубінскім. Кубінцы многа гавораць (тут прыкладам з'яўляецца сам *Камандантэ* Фідэль), але не кідкія да працы, тады як беларусы — іх антыподы: маўклівыя працаголікі. Аднак жа вынікі **іх** гаманы і **нашай** працы надзіва роўназначныя. Ды дзіўна, што простыя кубінцы, атрымліваючы паёк (*мандада*) па тыднёвай харчовай картцы (*тархеце*) ў задушлівых начных чэргах, не губляюць свайго жыццёвага аптымізму. Вы толькі адчуйце гонар за сваю галечу і дзікунства Феліпы (свякрухі нашай аўтаркі-гераіні), якая купае ўнучку (дачку Алены Брава) у адзіным іржавым тазіку, у якім толькі што мыла падлогу: *"...мяса, яйкі, масла — гэта буржуазная раскоша. Камандантэ заклікае зацягнуць рамяні на апошнюю дзірку — і кожны кубінец павінен гэта зрабіць!*

*— А калі Камандантэ запатрабуе наогул нічога не есці?*

*Феліпа гнеўна ўскідвае галаву ў белых паперках (і навошта везла ёй з Саюза найлепшыя бігудзі ў падарунак?):*

*— Камандантэ толькі варта загадаць! Асабіста я хачу толькі аднаго: памерці раней, чым сканае Камандантэ!"*

Вычуваеце, як рэхам адгукаюцца гэтыя словы на яшчэ нядаўнюю падобную беларускую рыторыку?..

Што ж, як піша Алена: "*Мы самі носім у сабе свой ГУЛАГ і Асвенцім, і ўсё тое, што ствараем вакол сябе, ёсць толькі іх праекцыі на экране камунальнага кінатэатра*".

Але, калі нешта забіраецца, то нешта мусіць і дадавацца: бо вунь як цешыцца душа гераіні нават з беларускай трасянкі, пачутай за акіянам! ("*Маладая жанчына з круглым, славянскага тыпу тварам і русымі валасамі да плеч звярнулася да мяне: "Заходьте пожалста!" Няўжо родная трасянка?! Як яна абражала мой слых у Беларусі! А тут — тут я гатовая была кінуцца на шыю Лідзіі Руцэвіч, сіньёры-адміністрадоры гэтай суверэннай Касталіі*", "*бо фраза засціцца туманнай слюдою звычкі, і толькі ўдумаўшыся ў якое-небудзь слоўка, знаёмае, як блакітная жылка на скроні ва ўласнага дзіцяці, раптам адчуеш усёй скурай яго зіхоткую спрадвечнасць...*")

Не ведаю ці не далёка я сягаю ў сваіх суб'ектыўных параўнаннях, але чамусьці ўспомнілася мне нобелеўская аповесць Эрнэста Хемінгуэя "Стары і мора". Перачытаўшы яшчэ раз гэты высокамастацкі тэкст пяцідзесяцігадовай даўнасці, я зразумеў, што і кубінцаў, як і нашую занесеную туды выпадкам гераіню, не адпускае настальгія па сваёй Айчыне ("старому" штоночы сніцца яго прарадзіма **Афрыка**), хоць яны ўжо звыкліся і зрадніліся з **гэтай** (Кубай). І гэта якраз той выпадак (нярэдкі між іншым у сённяшнім свеце), калі межы Айчыны *абмяжоўваюць* чалавечую свабоду, хоць, як зазначае пісьменніца, *"па-сапраўднаму свабодны чалавек проста не заўважае гэтага, бо свабода з"яўляецца натуральным станам ягонага арганізма"*...

І ўсё ж аўтар аповесці атаясамляе сябе (нас, беларусаў, еўрапейцаў) з ластаўкамі, для якіх каменданцкі (чытай — аўтарытарны) рэжым непрыймальны, паколькі "*ластаўкі робяць гнёзды не з галінак, як іншыя птушкі, а лічы, з бруду — з гліны ды зямлі, змяшаных са слінаю, і лепяць іх зноў жа не на дрэвах, а прымацоўваюць куды заўгодна: да балконаў, карнізаў. Яны здольныя нарадзіць і выхаваць патомства практычна ў любых умовах. Вось толькі ў клетцы жыць не могуць*".

Аднак жа прынараўліваемся, калі змушаюць, дадам ад сябе. А па асацыяцыі напомню нязграбны па форме, але глыбокі па змесце даўні верш рускага паэта Г. Дзяржавіна:

*"Поймали птичку голосисту*
*И ну сжимать ее рукой.*
*Пищит бедняжка вместо свисту,*
*А ей твердят: "Пой, птичка, пой!"*

Ёсць над чым паразважаць.

Безумоўна, асноўнай ідэяй аповесці Алены Брава з'яўляюцца псіхалагічныя і філасофскія аспекты home sapiens, узятага на злом... Наколькі крохкі альбо трывалы ён у крытычных жыццёвых і лёсавызначальных сітуацыях...

Паралельна асноўнаму сюжэтнаму тэксту — ненавязліва, але даволі глыбока і абазнана — разглядваецца прырода жанчыны, пытанні яе ўнутранай свабоды і творчасці.

*"Быць жанчынай — гэта адначасова і пастка, і найвялікшае шчасце, бо толькі жанчына мае карані ў Сусвеце, толькі яна здольная перажыць пачуццё абсалютнага зліцця з іншай істотай — знітаванай, дасягальнай адно ў цяжарнасці, — і толькі яна здольная нарадзіць. Не яе віна, што яна нараджае ў свет, створаны мужчынамі. Мужчына пазбаўлены каранёў, ён адасоблены ад сусветнай Еднасці і вымушаны ўсталёўваць сваё панаванне праз такія брыдкія рэчы, як штурм Бастыліі, казармаў Манкада альбо Зімовага Палаца. Але — з іншага боку: менавіта таму, што ён няздольны нарадзіць, мужчына стварае вялікае мастацтва. Дык як жа вытлумачыць амаль непераможную цягу да пісьмовага стала, унутранае ўсведамленне абавязку — перад кім, дарэчы? Перад Богам? Перад будучымі пакаленнямі? Лухта, лухта! — калі тое адчувае мужчына?*

*Як памылку прыроды, няйнакш*", — разважае яна.

Па ўсім адчуваецца, што аўтарка пастаянна "заклапочаная" пытаннямі сваёй адзіноты і ўласнай незапатрабаванасці ў сучасным агромністым людскім свеце. І калі гэты свет яшчэ не дарэшты зваражнеў да яе, то толькі дзякуючы яе ўласным душэўным высілкам. Бо не адразу, але паступова, у працэсе асэнсавання пражытага і перажытага, выспяваюць у яе праявы жаночай годнасці і волі да ахвяравання быццёвым (надзённым) дзеля духоўнага (вечнага).

*"Імя тваёй сілы — любоў. І яна настолькі вялікая, што можа змяніць напрамак ветру, разбурыць Карфаген і зноў узвесці яго з руін"*, — як самазакліннане вусцішна вышэптвае яна ў лёсавызначальныя хвіліны. І гэта ўжо прэлюдыя перамогі над усім тым, што засціць ясны, адпачатку дадзены Богам, свет чалавечага жыцця. А ўжо там, за ім, туманіцца прыцягальная Вечнасць, як цнатлівы полаг нязведанага...

М-да... Суб'ектыўна, вядома. Але прыкладна так вось. Як у нашага "выклятага паэта" М.Купрэева:

*цягнуць мяне з маім чорным лёсам*
*д"ябал — у пекла, анёлак — у рай...*
*Між Ладам тваім і маім Хаосам*
*от і жыві тут — хоць памірай.*

Пэўна, ад майго пісання можа скласціся ўражанне гэткай абсалютнай дасканаласці прозы Алены Брава. Гэта не зусім так. Пашырэнне свайго (натуральнага) беларускамоўнага слоўніка, узбагачэнне стылёвай разнастайнасці, адасабленне ўласнага погляду на свет ад поглядаў сваіх герояў — гэта ўсё ў яе яшчэ наперадзе. Ніва для літаратурнай сяўбы яшчэ толькі ўзворваецца (ці ўзорваецца?)... Але тое, што сёння ў беларускай літаратуры з'явілася неардынарная таленавітая пісьменніца, — факт неаспрэчны. Пра гэта з задавальненнем і абвяшчаю, бо не часта здараецца...

(Цяпер чакаю публікацыі яе новай аповесці "Імя ценю — святло", якая павінна з'явіцца ў чэрвеньскім нумары часопіса "Полымя". Падпішыцеся — і будзем чытаць разам.)

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



ВАСІЛЬ БЫКАЎ і ПІМЕН ПАНЧАНКА. 1984 г.

**Яўгенія ЯНІШЧЫЦ**



*Дух часу мой то хмельны,*
*то цвярозы.*
*Заву цябе на самым схіле дня:*
*Ідзі ў мой свет —*
*Там белыя бярозы*
*І сіняя без краю вышыня.*

*Яшчэ чужы і мною не каханы,*
*Ім не спяваны мною, нібы ў дом,*
*Ідзі ў мой свет —*
*Там пахкія паляны*
*Напалавіну з горкім палыном.*

*Не бойся, што любіла я замнога,*
*Што разлюбіла. Вось мая рука,*
*Ідзі ў мой свет —*
*Там вечная трывога*
*Імчыць удаль, як горная рака.*

*Ідзі ў мой свет. Я іншага не маю.*
*І не жадаю іншага ў жыцці.*
*Спыніся сам...*
*Бо я сама не знаю,*
*Куды цябе, шчаслівага, вясці?!*

**"Маладосць" № 11, 1971**

**Казімір КАМЕЙША**



*Пацямнеў ад выбухаў бярэзнік.*
*Дыму нахілілася сцяна...*
*Быццам грушыну,*
*зямлю за грудзі трэсла*
*Сілаю трацілавай вайна.*
*І ніхто за тым не бачыў шквалам,*
*Як жанчына босая ішла.*
*Сэрцы два ў грудзях яна трымала*
*І ўтрымаць ніяк іх не магла.*
*Так ішла.*
*Аб стволле апіралася,*
*Чула, як грукоча першы гром.*
*Эх, каб першы...*
*І яна куялася*
*Разам з тым бярэзнікам кулём.*
*Лес палаў,*
*нібы сцягі разгортваў,*
*Крык дзіцяці болем кроіў слых.*
*Толькі ён адзін трывожыў*
*мёртвых,*
*Перасцерагаў усіх жывых.*

**"Маладосць" №8, 1970 г.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**



*Ночы золкія пеняць*
*пожні зёлкавых траў.*

*Нарачанскую песню*
*прытулю да кастра.*

*У разбуджаных хвалях*
*будзе біцца прылій,*
*адгукнецца Купалле*
*ў ціхай песні зямлі.*

*Сэрца вырвецца з дому,*
*бо я волю люблю.*
*Я знямелую стому*
*па зямлі разгублю.*

*І куды б не занесла*
*маладая пара, —*
*нарачанскую песню*
*данясу да кастра!*

**"Маладосць" № 6, 1971 г.**



Супрацоўнікі "Маладосці": В. ГРАМЫКА, І. ГРАМОВІЧ, М. АЎРАМЧЫК, Г. ШЧАРБАТАЎ, А. РЫЛЬКО і Я. ВАСІЛЁНАК. 1955 г.

1970-я




У 70-я гады часопіс у чарговы раз мяняе свой фармат (пакідаючы пры гэтым амаль такі ж аб'ём). Тыраж яго няўхільна расце ўгору, і ў 1976 годзе ён становіцца больш, чым 20 тысяч.

На мяжы 60—70-х гадоў "Маладосць" друкуе раман Івана Чыгрынава "Плач перапёлкі" (1970), затым — працяг — "Апраўданне крыві" (1976).

Сярод іншых значных публікацый "Маладосці" таго часу — аповесці "Абеліск" (1971), "Дажыць да світання" (1973), "Воўчая зграя" (1974), "Яго батальён" (1975), "Пайсці і не вярнуцца" (1978) Васіля Быкава, "Золак, убачаны здалёк" (1978) Янкі Брыля, "Калянае лісце" (1974) Паўла Місько, "Лісце каштанаў" (1973) Уладзіміра Караткевіча ды яго раман "Чорны замак Альшанскі" (1979).

У 1973 годзе часопіс друкуе раздзелы з кнігі "Я — з вогненнай вёскі" А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка.

Сярод літаратурных адкрыццяў дзесяцігоддзя — Таіса Бондар, Васіль Гігевіч, Аляксей Дудараў, Алесь Кажадуб, Уладзімір Мазго, Уладзімір Марук, Мікола Мятліцкі, Уладзімір Някляеў, Алесь Пісьмянкоў, Уладзіслаў Рубанаў, Уладзімір Саламаха, Віктар Шніп...

У 1972 годзе галоўным рэдактарам часопіса становіцца Генадзь Бураўкін, якога на гэтай пасадзе ў 1978 годзе змяняе Васіль Зуёнак.

Пад канец дзесяцігоддзя кошт часопіса ўзрастае на 10 капеек, але, як вынік, пачынае падаць тыраж.

1980-я




"Маладосць" 80-х многім яе чытачам, напэўна, запомнілася аповесцямі "Зброя" (1981) Уладзіміра Караткевіча, "Тайна драмы" (1984) Івана Шамякіна, раманамі "Свае і чужынцы" (1983) Івана Чыгрынава, "Меч князя Вячкі" (1985) Леаніда Дайнекі, "Гаспадар-камень" (1984) і "Свой дом" (1989) Генрыха Далідовіча ды іншымі творамі беларускіх пісьменнікаў.

Незвычайную цікавасць у чытачоў "Маладосці" таго часу выклікала аб'ёмная гістарычная праца Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь" (1988—89). Увогуле, пачынаючы з другой паловы 80-х, часопіс друкуе шмат гістарычных матэрыялаў, якія грунтуюцца на шматлікіх раней невядомых фактах.

А тым часам у літаратуры з'яўляюцца новыя імёны: Эдуард Акулін, Уладзімір Арлоў, Галіна Булыка, Адам Глобус, Ана-

(Пачатак на стар. 4, 6. Заканчэнне на стар.12)

## ПАЭЗІЯ

Валянцін ЛУКША



### ЯНКА КУПАЛА Ў ПЕЧЫШЧАХ ГОД 1942-і...

*Будзённасць наша,*
*Як жахлівы сон.*
*Асэнсаваць яго душа не ў стане.*
*Зямлі пад ботам ката цяжкі стогн*
*У сэрцы аддаецца пад Казанню.*

*Хоць да вайны длёка —*
*Тут вайна*
*Нясцерпным болем*
*б'ецца ў клетцы кожнай,*
*Бо ненавісны дэман не сканаў,*
*Не злёг яшчэ навек у дол мурожны.*

*Згадаю шлях трывожны на Усход,*
*Штодзённыя бамбёжкі і пажары,*
*Крыжастых самалётаў карагод,*
*Нібыта пекла насылае хмары.*

*Праз Волгу пераправа на вярсту.*
*Чакай і дзень,*
*І ноч —*
*Не дачакацца.*
*Ды добры чалавек прыйшоў*
*І тут,*
*У Печышчах, прапанаваў застацца.*

•

*Гасцінная Татарыя!*
*Павер,*
*І ў хаце сябра мне няма спакою,*
*Пакуль крыляе крыважэрны звер*
*Над роднаю зняважанай зямлёю.*

*Караючы няхай малоціць гром*
*І гоніць лютых злыдняў ад парога...*
*Перапаўняе гнеў маё пяро,*
*Бо сэрца перапоўнена трывогай:*

*"Партызаны, партызаны,*
*Беларускія сыны!*
*За няволю, за кайданы*
*Рэжце гітлерцаў паганых,*
*Каб не ўскрэслі век яны".*

### ПІЛІПАЎСКІЯ ХАЛАДЫ

*Піліпаўскія халады...*
*У хаце,*
*Бы ў лядоўні,*
*Зімна.*
*Пара чакання і нуды,*
*Час горкай роспачы нястрымнай.*

*Піліпаўскія халады...*
*Зямля прытомлена пасціцца,*
*Бо права ёсць на перадых,*
*Каб чысцінёю наталіцца.*

*Піліпаўскія халады...*
*Завея крута куралесіць, —*
*Гуляе месяц малады,*
*Ці воўчае вяселле ў лесе?*

*Піліпаўскія халады...*
*І Навагоддзе карагодзіць,*
*Сум адлятае,*
*Нібы дым,*
*Няпэўнасць ціха адыходзіць.*

*Піліпаўскія халады...*

*І ўжо румяніцца Каляды,*
*Дзень да вясны кладзе сляды*
*І з сэрца выкрасае радасць.*

### НАДЗЁННАЕ

*Смерць на курку*
*заўжды трымае палец.*
*Не вылічыш,*
*Калі апошні крок...*
*І вось ужо Яроменку хавалі,*
*Зямныя краскі клалі на грудок.*

*Самааддана ён служыў мастацтву.*
*Ніколі не фальшывіў,*
*Не маніў.*
*І напалам*
*з усім славянскім брацтвам*
*І радасці,*
*І гордасці дзяліў.*

*Мы з ім пяшчотна доўга сябравалі,*
*Нікому не сурочылі бяды.*
*Здаралася,*
*Па добрай чарцы бралі,*
*Наколькі дазвалялі нам гады.*

*Час наляцеў зլавесна-хіжы,*
*Іншы,*
*Час дробных гарлапанаў і падлюг...*
*Ён у тэатры аказаўся лішні,*
*Хоць лезь па ўласнай волі у пятлю.*

*Ды не з таго замешаны ён цеста,*
*Каб знікнуць,*
*Нібы лёгкі першы снег...*
*Бо не застацца*
*проста мокрым месцам*
*Вучыўся на праклятай той вайне.*

*Багаты светлай шчодрасцю надзіва,*
*Ні часу*
*І ні сіл не шкадаваў,*
*І без ваганняў і разваг Радзіме*
*Ён кропелькі крыві сваёй аддаў.*

*Вядома:*
*Колькі б нас ні праслаўлялі,*
*Спакусе не трапляйся на кручок...*

*Смерць на курку*
*заўжды трымае палец,*
*Не вылічыш,*
*Калі апошні крок.*

### АГЕНЬЧЫК ДУШЫ

*Калі маркота чорная употай*
*Вам сэрца паспрабуе раскрышыць, —*
*Павінен уключыцца у работу*
*Агеньчык непакорлівай душы.*

*Ён тонка,*
*Але цвёрда нагадае:*
*Не трэба усур'ёз прымаць асцё, —*
*Румяніцца наступны дзень*
*над краем,*
*Ручвом нястрымным*
*зіхаціць жыццё.*

*Шапочуць спорна у алеях ліпы,*
*Зяленіва гайдаецца разліў.*

Любоў ДЗІКАВІЦКАЯ



•

*Вальс Штрауса*
*"Ружы поўдня".*
*Таемнага неба*
*фланель. Сланечнікам спелым*
*поўня*
*у выстуджаным*
*акне.*
*Сплывае імгненне.*
*Вечар.*
*Пяро. Вышыня. Працяг.*
*Туга дагарэлай свечкі*
*загадкавасцю*
*быцця.*

•

*А памятаеш,*
*некалі даўно*
*на гэтым лузе*
*мы збіралі росы?*
*Прамень барвовы*
*уплятаўся ў косы,*
*Струменіла з далоняў*
*серабро.*
*З якой нагоды*
*нас сюды звяло?*
*Тут параслі цяпер*
*не нашы травы.*
*Іх водар не салодкі,*
*а гаркавы.*
*І воблакамі*
*неба замяло.*
*Залётны вецер,*
*хто цябе прасіў*
*кранаць маё*
*схаванае вуголле?*
*Ты гойсаць адляціш*
*да чыстых гоняў.*
*А мне тушыць агонь*
*не хопіць сіл.*

•

*Прабачце мне*
*неасцярожнасць слоў,*
*што з вуснаў некалі*
*зляцелі самі.*
*Іду часцей*
*сухімі палынамі.*
*Бывае, зрэдку, —*
*ля чужых лугоў.*
*А позірк той*
*ляціць стралою ўслед.*
*І ўсё здаецца,*
*свет сышоўся клінам.*
*Трымаю гронку*
*горкае каліны.*
*Але ў вачах —*
*бялюткі першацвет.*

•

*Мне шкада,*
*што птушкі адлятаюць.*
*І шкада,*
*што вернуцца не ўсе.*
*Толькі зоркі*
*так прывабна зззяюць*
*дзесьці там,*
*на Млечнай паласе.*
*Не спазнаць*
*таемнасці Сусвету.*
*Незваротнай птушкай*
*нашы дні*
*нас нясуць*
*праз зіму і праз лета*
*ў непазбежнасць*
*сіняй вышыні.*

*Для цягавітых пчол удзячны ліпень*
*На дрэвах шчодра краскі запаліў.*

*І ўсё суладна-велічна ў прыродзе,*
*Віруе векавечны карагод.*
*І ўсё суладна-велічна ў народзе,*
*Калі над ім сам гаспадар —*
*Народ.*

*Таму,*
*Калі атрутная маркота*
*Вам сэрца паспрабуе раскрышыць,*
*Як талісман,*
*Уключыце ў работу*
*Агеньчык непакорлівай душы.*

## ПРЫЗВАННЕ

***Уладзіміру МУЛЯВІНУ***

*Нялёгка слова гаварыць пра талент.*
*Удвая цяжэй,*
*Калі той талент —*
*Друг.*
*Мулявіну гады наканавалі*
*Круціць*
*С а м о м у*
*Свой жыццёвы круг.*

*Анёлам светлым лётае па свеце,*
*І роспачны з грудзей здымае груз...*
*Цяпер вядома грэшніцы-планеце,*
*Што ёсць зямля святая —*
*Беларусь,*

*Дзе людзі пра дабро і шчасце дбаюць,*
*Дзе пашчак птушак*
*І зубрыны рык...*
*Самааддана,*
*Сонечна спяваюць*
*Народжаныя Майстрам*
*"Песняры".*

*Мелодыя ўзвінаецца на крылах,*
*Чысцюткая,*
*Як кропелькі расы.*
*А ў ёй —*
*Як ручнікі Алёна мыла.*
*А ў ёй —*
*Як канюшыну Ясь касіў...*

*Мэтр*
*Не імкнецца моду ўлагодзіць,*
*Бо гонару высокага*
*Стае.*
*І талент*
*Не адно дзесяцігоддзе*
*Народу*
*Без талонаў*
*Аддае.*

•

*Павісла зорка*
*ў настылым голлі*
*чыйго расстання?*
*чыёй любові?*
*А можа, гэта*
*мігціцца зданню*
*маё загаданае*
*жаданне?*
*Дастаць — няблізка.*
*Мне шкодзіць веце.*
*Ды з ног збівае*
*калючы вецер.*

•

*Тады ліў дождж,*
*нібыта з сотні вёдраў.*
*Раз'юшаны,*
*так блізка біў пярун.*
*І нешта адбывалася*
*ў прыродзе.*
*І словы не даваліся пяру.*
*За вокнамі*
*згінаў тапалі вецер.*
*Ты быццам з неба,*
*нечаканы госць.*
*І калі ёсць*
*якая тайна ў свеце,*
*то гэта, думаю,*
*яна і ёсць.*

**ПРОЗА**

# ВАЛЬС, ПРАЦЯГЛАСЦЮ Ў ЖЫЦЦЁ

Дзень горада святкаваўся, як заўсёды, ярка і шумна. Цэнтральная вуліца была аддадзена ў распараджэнне гуляючых. На плошчах і ў парках ладзіліся канцэрты і танцы. Паўсюль было шматлюдна — хто з марожаным, той-сёй з чыпсамі, а некаторыя і з напіткамі.

Побач са мной размясціліся мужчыны з півам. Нечакана адзін з іх павярнуўся да мяне. Я супраць п'яных размоў. Але ў вачах гэтага чалавека бачылася нешта такое, што змушала да ўвагі. Боль і асуджанасць... Здавалася, што ад хвалявання ён вось-вось "узарвецца".

— Але чаму, чаму яна расказала пра гэта толькі цяпер?! — звяртаўся мужчына да мяне. — Чаму?!

Ён не чакаў маіх адказаў. Яму яны былі непатрэбны, бо хацеў выгаварыцца, скінуць з душы цяжар.

— Чаму яна пасля стольках гадоў сёння гэта сказала?! Усё магло б стацца зусім па-іншаму! А цяпер у мяне сям'я, двое дзяцей.

Мужчына крыху падсунуўся бліжэй.

— Мы вучыліся ў адной школе, у паралельных класах. Ведалі адно аднаго шмат год. У дзесятым нашы класы сабралі разам перад выпускнымі экзаменамі. Так здарылася, што сядзелі мы побач. А пакуль чакалі настаўнікаў, разабавязкова патанцуем. А на першы танец запрасі яе.

Колькі і з кім бы я потым ні танцаваў, а той, першы танец я ні забуду ніколі!

Усе глядзелі толькі на нас. А мы нesліся ў віхры прыгожай музыкі, і са шчаслівага матчынага твару мне на кашулю капалі слёзы.

Калі большасць бацькоў разышлася па дамах, мы, выпускнікі, весяліліся, як нам хацелася. Я ў чорным касцюме і мая сяброўка ў бялюткай кароценькай сукеначцы з такімі ж кветачкамі ў валасах, сапраўды выглядалі неяк асаблівa, так што не толькі яе і мае аднакласнікі, але і настаўнікі называлі нас "жаніхом і нявестай".

Нас гэта чамусьці засмучала, і мы вырашылі збегчы ад усіх. Я жыў побач са школай, і мы пайшлі пакалыхацца на гушкалцы да нас у двор.

— Паслухай, — прамовіла яна, — ты заўсёды прыносіў мне розныя кветкі. Шчыра кажучы, гэта вельмі прыемна. Ты — увесь мокры ад дажджу, а кветка пахне ноччу.

— Тая кветка называецца начная прыгажуня, — падказаў я. — Пайшлі пакажу, дзе яна расце, — і мы скіравалі за дом да клумбы.

Не паспелі нагнуцца, каб удыхнуць у сябе водар начных кветак, як нечакана маўлялі: хто дзе марыць вучыцца, што туды трэба будзе здаваць, пра выпускны вечар. Яна смяялася з мяне, што не ўмею кружыць вальс, маўляў, на выпускным і патанцаваць не будзе з кім.

— А яшчэ баль называецца!

Я адказаў, што замест таго, каб здзекавацца, то лепей бы навучыла, калі ўжо такая ўмеліца. А я, так і быць, за гэта пазбаўлю яе ад падпірання сцяны і запрашу на танец. Дзяўчына рассмяялася і нечакана пагадзілася.

З гэтага ўсё і пачалося.

Мы нагледзелі пад танцпляцоўку аўтобусны прыпынак на ўскрайку горада, дзе аўтобус рэдка спыняецца і ў нас хопіць часу, каб вучыцца. Не ведаю, як з танцам, але ў адтоптванні ног я перасягнуў самога сябе.

Адзін-два-тры, адзін-два-тры...

Баючыся прытуліцца да дзяўчыны, я нагадваў камлюкаватага мядзведзя, які не паддаецца дрэсіроўцы. Уяўляеце, які быў выгляд збоку!

Але на гэтым мае пакуты не скончыліся. Дома чакаў сюрпрыз.

Чамусьці маю матулю вельмі зацікавіла, куды гэта я хаджу такі напрасаваны, а ўсім маім тлумачэнням — не верыла. І трэба ж такому здарыцца, каб у яе лепшай сяброўкі побач з тым самым месцам, дзе мы танцавалі, была засеяна бульба. Аднойчы, прапалваючы радкі,яна і згледзела нас за вальсаваннем. Да ўсяго, што суседка пабачыла, дабавіла адсябяціны, ды стольki, што і ў рэзгіны не зграбеш. З той пары дома інакш як "жаніх" мяне не называлі.

Але мы прадоўжылі танцы. Сяброўка маці больш на сваім участку не з'яўлялася. Але ўзнікла другая праблема — нашы настаўнікі. Фізіка па дарозе ад прыпынку, дзе мы танцавалі, да яе дома аж два разы сустрэлі.

Цераз пару дзён ужо ўся школа ведала пра нашы сустрэчы. І калі я тлумачыў, што вучуся танцаваць вальс, з'едліва смяяліся: "Глядзі, датанцуецеся!"

Тым не менш, экзамены мы здалі так як трэба, і на выпускным пад першыя гукі вальса я падышоў да яе, каб запрасіць на танец.

— Мадам, дазвольце!

Яна ўсміхнулася і адказала:

— Зірні, як ласкава і з гонарам глядзіць на цябе твая маці. Мы яшчэ з-за кустоў выбегла домакіраўніца цётка Люба і з крыкам кінулася да нас.

— Бяжым! — я схапіў дзяўчыну за руку, і мы шуснулі наўцёкі. Хоць цётка Люба была даволі мажнай і даўно на пенсіі, але не адставала ад нас ні на крок.

Мы аббеглі, у надзеі адарвацца, ужо каторы двор і за адным з гаражоў нечакана наляцелі на парачку маіх аднакласнікаў, якія цалаваліся. Цётка Люба не паспела заўважыць, куды мы завярнулі, і запыталася аб гэтым у нашых сяброў. Тыя зараз жа скіравалі яе ў супрацьлеглы бок. Каб нечакана не сустрэцца яшчэ раз з домакіраўніцай, мы вырашылі хуценька вярнуцца на выпускны баль і згубіцца ў натоўпе.

Калі наступным днём я ўвечары выйшаў з дому, мяне спыніла цётка Люба.

— Слухай, ты часам не ведаеш, хто у нас мінулай ноччу кветкі рваў? Я ведала, што ў школе выпускны вечар, таму вырашыла ўсю ноч пільнаваць. І застукала-такі адных! Але не паспела схапіць — збеглі! І да школы не паленавалася падысці, думала, што пазнаю ўцекачоў. Ды дзе ж там! Усе хлопцы ў чорных касцюмах, а дзяўчаты ў беленькіх сукеначках.

Я канечне, не прызнаўся. А прыцемкам, гуляючы са сваёю сяброўкай, мы доўга смяяліся над начным здарэннем. Мы радаваліся жыццю, і жыццё люляла нас.

Толькі аднойчы ўсё нечакана змянілася. Я зайшоў за каханай, каб пайсці, як і дамаўляліся, у кіно. Але яе дома, чамусьці, ужо не было. Абышоўшы ўвесь горад, толькі к паўночы знайшоў яе на танцпляцоўцы. Яна не хацела са мной размаўляць, нічога не тлумачыла, і праводзіць маю любоў пайшоў другі. Я, быццам пабіты сабака, плёўся следам. Што я потым ні рабіў, каб пагаварыць, але ўсё было безвынікова. Трубку тэлефона яна кідала, на пісьмы не адказвала, па горадзе гуляла ўсё з тым жа хлопцам. Сябры, якіх прасіў з ёй пагаварыць, таксама прыходзілі ні з чым і толькі перадавалі просьбу больш яе не турбаваць. Я ніяк не мог зразумець прычыну такога рэзкага павароту і аж вар'яцеў.

Навошта мне Бог паслаў такое шчасце-пакуту — кахаць яе!

Спачатку я маліў, каб Ён вызваліў мяне ад гэтага пачуцця. Але калі раптам уявіў, што на самай справе гэта можа здарыцца, мне зрабілася блага. Без кахання, нават такога, я зрабіўся б нічым!

Вучоба не ішла мне ў галаву, і я праваліўся на ўступных экзаменах у інстытут, а ўвосень загрымеў на флот.

За час, што я служыў, былая каханка выйшла за таго ж хлопца замуж, нарадзіла дзіця і была цяжарная другім. Я крыху супакоіўся, а праз пару гадоў і сам ажаніўся. І цяпер у мяне цудоўныя дзеці, добрая жонка, якую кахаю пасвойму. Але такога пачуцця, як да былой аднакласніцы, у мяне не будзе ўжо ніколі. Зведаўшы гэта — усё астатняе здаецца прэсным.

Мы не бачыліся з той пары да сённяшняга дня. Сямейнікі паехалі ў адпачынак, а сябры выцягнулі вось на піва ў святочны горад. Хвілін дваццаць таму мы прагуляліся каля аркестра, што на плошчы. Там весела танчыў народ. Раптам да мяне хтосьці звярнуўся і запрасіў на вальс. Яна!!!... Ногі зрабіліся нібы ватнымі, а сэрца страшэнна калацілася. Мабыць, яна адчувала тое ж самае. Мы стаялі сярод танцуючых пар і моўчкі глядзелі адно на аднаго.

— Навошта? — ледзь выціснуў я з сябе.

— Мне тады сказалі, што ты пайшоў у заклад на мяне, — і, бачачы, што я анічога не разумеючы гляджу на яе, растлумачыла: — Мне сказалі — ты паспрачаўся з хлопцамі, маўляў, я буду за табою бегаць.

**Святлана ПРАТАСЕНЯ**



— Але чаму ты не спытала ў мяне аб гэтым?

— Была для гэтага вельмі ганарлівая, — і яна сумна ўсміхнулася.

Я заўсёды чакаў і баяўся гэтай сустрэчы. Чакаў таму, што вельмі хацеў убачыцца. Баяўся за гэтыя гады ўгледзець яе пастарэлую, асунутую. Страшыўся расчаравацца ў ёй. Мае хваляванні былі дарэмнымі. Яна, як і раней, зззяла прыгажосцю. Але, магчыма, яна для мяне ўсякая застанецца любай.

Размаўлялі мы ня доўга, пару хвілін. Яна пра мяне і так усё ведала. А пра сябе толькі сказала, што сямейнае жыццё не ўдалося з самага пачатку, і нядаўна яны развяліся. Калі разыходзіліся, муж, каб зрабіць ёй балюча, паведаміў праўду пра сваю хлусню.

Мужчына надоўга задумаўся. Ён асуджана глядзеў сабе пад ногі. Быў тут, але думкі яго блукалі недзе далёка-далёка — у мінулым.

— Але чаму, чаму сказала пра гэта толькі зараз? Усё магло скласціся інакш, калі б яна тады хоць словам абмовілася пра прычыну. Мы цяпер бы расказвалі дзецям, нашым агульным дзецям, аб непаемным жарце ў маладосці.

Я ж лічыў, што яна закахалася ў другога. — Ён моцна сціскаў кулакі. Здавалася, што хоча вярнуцца ў мінулае, каб пабіць крыўдзіцеля, які спаскудзіў яму жыццё. Ды і сабе таксама.

— Так, на чужым няшчасці сваё шчасце не выпестуеш! Ды і ад сябе не ўцячэш! Крыўда, неразуменне, злосць за гэтыя гады прайшлі, але ўсё роўна цягне да яе. Што зараз рабіць — не ведаю!

Так жа нечакана, як пачаў размову, мужчына яе і скончыў. І, не развітваючыся ні са мною, ні са сваімі сябрамі, пайшоў у нікуды. Але цікава, куды ён урэшце прыйдзе? І што пераможа — каханне ці абавязак?

А на вуліцы па-ранейшаму шумела свята. І недзе закаханыя сварыліся, мірыліся, заваёўвалі адзін аднаго. Але якой цаною? Не думаю, што муж той жанчыны застаўся ў выйгрышы. У гэтай гісторыі няма пераможцаў. Тут усе пацярпелыя.

# АДПАЧЫНАК У «ГАРМОНІІ»

Летні адпачынак на Беларусі на думку большасці маладых людзей непрэстыжны, да і нецікавы. Але хлопцы і дзяўчаты з дзіцяча-юнацкага тэатра "Ронд-студыя" лічаць інакш.

Для іх адпачыць на радзіме — не марна траціць час. З самага пачатку, а "Ронд-студыя" стварыўся ў 1983 годзе, дзеці шмат вандравалі. Былі яны ў Швейцарыі, Галандыі, Германіі. Вандавалі па Швецыі і Расіі. А калі Ірына Васільеўна Маркава, кіраўнік тэатра, купіла хутар на беразе цудоўнага возера Свіцязь, вырашылі кожнае лета прыязджаць сюды, ва ўтульны дом, якому далі гордае імя "Дзіцячая база адпачынку "Гармонія".

Каб правесці лета ў "Гармоніі", падлетку трэба сябе нейкім чынам выявіць у працы. Напрыклад, паклапаціцца аб доме, у якім жывуць юныя артысты. Калі трэба — адрамантаваць, пафарбаваць вокны-дзверы, пабяліць печ. На жаль, у сучасных дзяцей увогуле не выхавана звычка працаваць.

Кожны месяц у "Ронд-студыю" прыходзяйць усё новыя і новыя пакаленні юных артыстаў, большасць з якіх у сваім жыцці нават мяцёлкі ў руках не трымалі. Але ж пасля адпачынку на Свіцязі ніхто з іх не баіцца іншым разам і падмесці ў доме, вымыць посуд. Галоўнае на час летняга адпачынку — дапамагчы "квітнець" здольнасцям і талентам дзіцяці. Але выхаванне пра-



цоўных навыкаў не з'яўляецца галоўнай мэтай педагогаў. У праграме дзіцяча-юнацкага тэатра "Ронд-студыя" — знаёмства з сусветнай культурай: літаратурай, выяўленчым мастацтвам, музыкай. Шмат у тэатры заняткаў па пластыцы. Дзеці і падлеткі самі ствараюць цікавыя пластычныя кампазіцыі.

Ёсць у наведвальнікаў "Ронд-студыі" добрая традыцыя. Кожную вясну і восень прыязджаюць тэатрам на хутар з саджанцамі дрэў. Рыхтуюць зямлю да пасадкі, ачышчаюць ад смецця. Дзеці шчыра мараць аб тым, што некалі самастойна створаць месца, дзе ўтульна і гарманічна будуць існаваць усе жывыя істоты.

У мінулым годзе на базе дзіцяча-юнацкага тэатра "Ронд-студыя" была створана кінашкола. На гэты момант яна паспяхова працуе і заваёўвае папулярнасць і ў дзяцей, і ў дарослых. Для таленавітых кінашкола — магчымасць удзельнічаць у здымках сапраўдных кінастужак, самастойна напісаць сцэнарый, адрэжысіраваць яго. (На шчасце, зараз на "Беларусьфільме" "запушчана" некалькі фільмаў, у тым ліку — дзіцячых.)

Большасць з дзяцей, магчыма, не стануць акцёрамі, але ў іх застанецца жаданне ствараць. Нядаўна падлеткі — рондаўцы вырашылі перарабіць сюжэт андэрсенаўскай "Снежнай каралевы". "Мне здаецца, Снежная каралева — вельмі адзінокая, — разважае выканаўца галоўнай ролі Алеся Качар. — Спадзяюся, мая гераіня будзе выклікаць спачуванне".

Акцёры ўпэўнены ў тым, што гэтая новая работа будзе мець поспех у гледачоў, не меншы, чым папярэдняя п'еса "Ронд-студыі" "Я — зорка, або Калі ідзе дождж". Гэта гісторыя дзяўчынкі, якая марыць стаць кіназоркай, перажывае ўдачы і расчараванні першага кахання і проста спрабуе знайсці сябе. Яна атрымалася вельмі рэалістычнай, мабыць, таму, што складалася з патаемных мар і фантазій студыйцаў. Складалася на Свіцязі, у сваім уласным доме.

Марыяна ЗАБРОДСКАЯ

ФЕСТЫВАЛІ

# ТРЫ ДНІ КАНІКУЛАЎ

***Пра вёску Сарачы Любанскага раёна я чула даўно. І не толькі таму, што там у савецкія яшчэ часы выбудавалі шыкоўны Дом культуры. Магла б яна і менш праслаўіцца на Міншчыне, каб не с ямейная пара энтузіястаў ад культуры, якая стварыла там дзіцячы калектыў "Летуценнікі". Якраз гэты тэатр, што вырас з вясковага гуртка, стаў ініцыятарам рэгіянальнага фестывалю дзіцячай аматарскай творчасці "Чароўны куфэрак".***



Досыць хутка фестываль перарос местачковыя рамкі і набыў статус абласнога. У такой якасці ён праходзіць ужо чацвёрты раз. Былі прапановы праводзіць яго па чарзе ў розных раёнах, але на гэтае "дзіця" патрачана столькі сіл і намаганняў, што Ала і Васіль Каткаўцы пакуль не здольны перадаць яго ў іншыя рукі.

Толькі багаты вопыт арганізацыі падобных святаў — з размяшчэннем і харчаваннем шматлікіх удзельнікаў і гасцей, з падрыхтоўкай даведачнай літаратуры, дыпломаў і сувеніраў, з запрашэннем журы і многім іншым дапамог правесці фестываль на належным узроўні. Аддзел культуры аблвыканкама разам з абласным Цэнтрам народнай творчасці таксама паспрыялі таму, каб былі задаволены і ўдзельнікі, і гледачы. Толькі прадстаўніка сістэмы адукацыі ў зале, на жаль, заўважана не было...

...Сарачы аказаліся зусім блізка ад раённага цэнтра — літаральна праз мост і раку Арэсу. Як хтосьці дасціпна заўважыў, гэта проста "Любань-2". І сапраўды, фестываль плаўна перацякаў з аднаго Дома культуры ў другі, маленькія артысты пераязджалі ў аўтобусах, а гледачы тупалі заасфальтаванай сцежкай.

Вясковы тэатральны глядач — яшчэ адно дасягненне Каткаўцоў і "Чароўнага куфэрка", На поўненькую залу люба было паглядзець. Калі меншым спадабалася музычная казка случчан, то "Сіняя птушка" Метэрлінка тэатра-студыі Барысаўскай СШ № 7 патрабавала ўвагі больш дарослага і пранікнёнага гледача. "Таленцікі" з Вілейкі таксама выбралі для сцэнічнага ўвасаблення няпросты матэрыял французскага аўтара і паспяхова справіліся з ім, атрымаўшы дыплом за ўдалае афармленне спектакля.

Рамантычная "Русалачка" Л. Разумоўскай (Дзяржынскі ГДК) дазволіла выявіць здольнасці дзяўчаткам, якія заканчваюць школу і пакідаюць калектыў. Сарочынцы ўдала абышлі ўсе "рыфы" "дарослай" рыцарскай п'есы С. Кавалёва, "Дабрадзеі" з Салігорскай школы № 12 пацешылі "асучасненым" Ямелем, "Ронд-студыя" з Мінска паказала прыклад яркай калектыўнай творчасці. Журы, дарэчы, выказала думку, што гэты вядомы ў Беларусі тэатр мог бы выступаць і ў якасці госця — як выступалі гатчынцы (Расія) з "Маленькім прынцам".

Тым не менш, журы на гэты раз вырашыла не прысуджаць званне лаўрэата. Магчыма, такое рашэнне абумоўлена пэўным разыходжаннем канцэпцыі фестывалю — а яна прадугледжвае прапаганду лепшых духоўных каштоўнасцей беларусаў — з тым рэпертуарам, які прывезлі аматарскія дзіцячыя тэатры. Звычка шукаць рэпертуар "за трыдзевяць зямель" даўняга паходжання, да таго ж кіраўнікі

АКТУАЛЬНА

# АРКЕСТР — СПРАВА ДЗЯРЖАЎНАЯ!

**У творчасці, як і ў самім жыцці, без праблем не бывае. Часам яны стымулююць пошук, спрыяюць прагрэсу. А часам — замінаюць творчасці, паралізуюць жыццё. Наступствы такіх недарэчных праблем (спароджаных не знешнімі, т.зв. аб'ектыўнымі акалічнасцямі, а чалавечай недальнабачнасцю) — дэструктыўныя і не папраўныя.**

Пачалося ўсё з выпадковай размовы. Дырыжор Сцяпан Горын, начальнік ваенна-аркестравай службы Унутраных войскаў МУС Беларусі, падзяліўся сваімі ўражаннямі ад нядаўняга справаздачнага канцэрта кафедры духавой музыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры. Вялікая і даволі разнастайная праграма засведчыла, на яго думку, відавочнае развіццё жанру. Тым больш дзіўнай падалася на ўсцешным агульным фоне адсутнасць (пры наяўнасці добрых музыкантаў) духавога аркестра ў традыцыйным разуменні. Засмуціла і тэматычная абмежаванасць рэпертуару, у якім не быў прадстаўлены патрыятычны напрамак, адпаведны духу дня, актуальным задачам умацавання беларускай дзяржаўнасці, пошуку і сцвярджэння нашай нацыянальнай ідэі. Годнае і паспяховае выступленне канцэртнага аркестра БДУ культуры "Светач" толькі пераканала ў неабходнасці мець і калектыў музыкантаў-духавікоў іншага кшталту. Бо канцэртна-эстраднае амплуа, праца з адпаведным рэпертуарам не дазваляе выконваць ролю таго мудрага, дыпламатычнага выхавальніка патрыятычных пачуццяў і грамадзянскай годнасці, якім спрадвек і слушна лічыўся менавіта духавы аркестр.

Так, спрадвек і паўсюль гучнагалосая музыка, напоўненая-акрыленая жывым чалавечым дыханнем, суправаджала ўсе важныя рытуалы, абвяшчала пачатак ці заканчэнне імпрэзы, была сігналам трывогі або звяртала ўсеагульную ўвагу на радасную падзею. Можна тут згадаць еўрапейскае мінулае нашай краіны, яе прагрэсіўныя музычныя традыцыі. Можна спаслацца на гісторыю двух апошніх стагоддзяў, калі пажарныя каманды былі абавязкова "ўзброеныя" меднымі інструментамі, калі пасажырскія цягнікі прычальвалі да перона

**Вось да якой змрочнай высновы прывялі мяне ўласныя развагі над праблемай, здавалася б, лакальнай, а насамрэч, калі добра падумаць, — немалаважнай для нашай культуры, для духоўнага здароўя нацыі, для · станаўлення і самасцвярджэння маладой беларускай дзяржавы.**







тэатраў дружна скардзяцца на недахоп нацыянальна рэпертуару. Ёсць надзея, што такое становішча ў хуткім часе будзе выпраўлена. Знамянальна, што фестываль супаў з Днём тэатра і яшчэ з адным святам, пра якое мы загадзя не ведалі: "Летуценнікам" споўнілася 20 год.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**ФОТА Віктара НАГОРНАГА**

ТВОРЧАСЦЬ

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры пасля таго, як узначаліла яго Ядвіга Грыгаровіч, склалася добрая традыцыя праводзіць пад канец навучальнага года фестываль мастацтваў.**

Усе мастацкія кафедры універсітэта робяць справаздачныя канцэрты на сцэнічных пляцоўках горада Мінска з запрашэннем шырокай грамадскасці.



Ужо прайшлі справаздачныя канцэрты кафедраў народнай інструментальнай музыкі і духавой музыкі.

9 красавіка ў Клубе імя Дзяржынскага згодна з планам фестывалю адбыўся справаздачны канцэрт студэнтаў і выкладчыкаў кафедры харавога мастацтва. На ёй рыхтуюцца спецыялісты ў галіне харавой культуры шырокага профілю — гэта дырыжоры і мастацкія кіраўнікі прафесійных і аматарскіх акадэмічных і народных харавых калектываў, выкладчыкі спецыяльных дысцыплін, спевакі.

Спецыяльныя дысцыпліны выкладаюць высокакваліфікаваныя выкладчыкі, прафесары, дацэнты, старшыя выкладчыкі. Вядуць шырокую вучэбную і канцэртную дзейнасць: хоры, ансамблі, трыо, дуэты. Сярод іх лаўрэат Мінскага міжнароднага фестывалю праваслаўных спеваў камерны хор "Дабравест"; лаўрэаты міжнароднага маладзёжнага фестывалю "Арт-сесія" мужчынскі ансамбль "Віват", у якім спяваюць 26 студэнтаў і выкладчыкаў, і змешаны хор "Мара". Іх стварылі і плённа кіруюць выдатныя педагогі і музыканты — гэта загадчыца кафедры, заслужаны работнік адукацыі РБ прафесар Альбіна Пякуцька і заслужаны дзеяч мастацтваў РБ, прафесар Яўген Рэўтовіч.

На справаздачным канцэрце гэтыя калектывы прадставілі гледачам разнастайную праграму, як кажуць, на любы густ. Тут і апрацоўкі народных песень такімі вядомымі кампазітарамі, як А. Гайваронскі ("Ходзіць пава па вуліцы"), К. Галкоўскі ("А ў полі вярба нахілёная" і "Ці свет, ці світае"). Трэба адзначыць, што ў свой час многія з твораў, якія гучалі на канцэрце ў выкананні студэнцкіх хароў, пастаянна знаходзіліся ў рэпертуары Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы РБ яшчэ у час працы ў ёй Рыгора Шырмы.

На суд слухачоў упершыню было прадстаўлена шмат новых твораў, у тым ліку найбольш значны і цікавы па форме, змесце і музычнай мове трыпціх "Роздум на пачатку трэцяга тысячагоддзя" — "Сінія васількі", "Еўфрасіння Полацкая", "Не памянуўшы родных" — музыка Э. Наско, словы Н. Загорскай.

З поспехам прайшлі выступленні Камернага жаночага студэнцкага хору — мастацкі кіраўнік старшы выкладчык Ларыса Міхалькова; вакальнага ансамбля "Чараўніца" — пад кіраўніцтвам Я. Рэўтовіча і трыо выкладчыкаў "Рэтра" ў складзе З. Леановіч, С. Ярохінай, Т. Гажэўскай.

Апошні нумар канцэрта — харавы вальс "Вясна" на словы А. Машыстава — паставіў кропку на харавым свяце, сімвалічна падкрэсліўшы вясеннюю пару.

**Аляксандр ЖУРАЎ**

пад зыкі бравурных маршаў, калі над алеямі паркаў луналі мелодыі старадаўніх вальсаў ды полек, а па вялікіх святах ладзілася шэсце духавых аркестраў праз увесь горад. А можна проста прыгадаць штосьці асабістае: ці не ў кожнага, хаця б аднойчы, хаця б у маленстве, быў — безумоўна ж, быў! — эпізод, звязаны з жывым гучаннем духавога аркестра. Што яшчэ мае такі глыбінны магнетызм, такую гіпнатычную энергетыку, такую невытлумачальную сілу, якая "прабірае аж да сярэдзіны"?!

Менавіта на духавыя аркестры ўскладзена ганаровая і адказная місія: суправаджаць цырымоніі сустрэч кіраўнікоў дзяржаў, выконваць дзяржаўныя гімны. У такім разе духавы аркестр — гэта, калі хочаце, атрыбут улады і дзяржаўнасці.

Думаю, сказана ўжо дастаткова, каб чытач сам зрабіў выснову, наколькі гэта сур'ёзна і важна: дзе, калі, што і як часта будуць граць духавыя аркестры. Іх пераканаўчы "голас" можа прэтэндаваць на значнае месца сярод культурных і нават ідэйных прыярытэтаў у маладым беларускім грамадстве. Аднак...

Аднак, ці падмацаваныя гэтыя прэтэнзіі належнай колькасцю ды якасцю такіх музычных суполак, перспектыўнасцю іх падрыхтоўкі, т.зв. кадравага напаўнення, забяспечанасцю рэпертуарам?

У пошуках аптымістычнага адказу на сваё грувасткае пытанне я гутарыла з вядомымі спецыялістамі, сталымі музыкантамі, дасведчанымі ў асаблівасцях падрыхтоўкі аркестравых музыкантаў і дырыжораў, у праблемах навучальнага працэсу і творчай практыкі. Замест чаканага адказу я чула трывожныя развагі, выкліканыя некаторымі тэндэнцыямі ў сённяшніх буднях Беларускага універсітэта культуры — у стасунках музычнай тэорыі, навукі з рэальнай педагогікай ды жывым выканальніцтвам. Калі доўгачаканая рэформа вышэйшай школы не палепшыць сітуацыю і замацуе негатыўныя тэндэнцыі (а такая пагроза ёсць!), апалагеты духавых аркестраў прагназуюць хуткую катастрофу і знікненне жанру. Не будзе каму граць, не будзе ў каго вучыцца, не будзе што граць і на чым.

"У суверэннай Беларусі пачала павялічвацца колькасць аркестраў, якія ствараюцца на дзяржаўным узроўні. Яны ёсць ва Узброеных Сілах, у сістэме Міністэрства ўнутраных спраў, МНС, у пагранвойсках. Але для іх не хапае кваліфікаваных кадраў! А чаму? — разважае дацэнт кафедры духавой музыкі БДУ культуры Віктар Новікаў. — Прычына, мабыць,у недальнабачным планаванні падрыхтоўкі музыкантаў па тых або іншых спецыяльнасцях. У складаных фінансавых умовах тэндэнцыя жорсткай эканоміі, скарачэнняў непазбежная, усе гэта разумеюць. Але нельга эканоміць на якасці, на прафесіяналізме, на культуры, на ідэалогіі, урэшце. Калі гадоў 10 таму, адпаведна рэкамендацыям "зверху", быў разы ў чатыры скарочаны прыём абітурыентаў-духавікоў, ніхто не задумваўся, што ўрэшце ўзнікне кадравая праблема. Бо тыя 2—3 выпускнікі з вышэйшай адукацыяй пастараюцца ўладкавацца на працу ў акадэмічныя сімфанічныя калектывы, а штат іншых аркестраў давядзецца запаўняць у лепшым выпадку малакваліфікаванымі выхаванцамі вучэльняў. (Да слова, у Маскве, напрыклад, вайсковыя духавыя аркестры цалкам укамплектаваныя інструменталістамі з вышэйшай музычнай адукацыяй). А варта было б паклапаціцца пра будучыню, пра шырокае развіццё сістэмы муніцыпальных аркестраў у абласцях, у райцэнтрах, мястэчках. Як у Еўропе: статус горада абавязвае мець і мясцовы тэатр і свой аркестр".

Выпучыў Віктар Новікаў і праблему падрыхтоўкі педагагічных кадраў, надзвычай актуальную напярэдадні рэформы вышэйшай школы. На гэтую ж тэму разважаў і прафесар БДУ культуры, вядомы дырыжор Вячаслаў Бартноўскі. Як падкрэслілі мае суразмоўцы, іх ВНУ наканавана займацца падрыхтоўкай прафесійнікаў у галіне музычнай культуры: педагогаў, арганізатараў і кіраўнікоў мастацкіх калектываў, спецыялістаў-выканаўцаў. Важная частка гэтага працэсу, безумоўна ж, — далучэнне і да навуковай дзейнасці. Важная, але ж не першасная і не асноўная. Але адчуваецца небяспечная, з пункту гледжання музыкантаў-практыкаў і педагогаў, падмена крытэрыяў ацэнкі мэты і вынікаў навучальнага працэсу на розных ступенях. І вось ужо ў планах рэформы адсутнічае неабходная пераемнасць у навучанні будучага спецыяліста. Здаровая логіка падказвае, што студэнт, які скончыў БДУ культуры і хоча ўдасканальваць свой прафесіяналізм, паступіўшы ў магістратуру, мусіць працаваць над навуковай работай, імкнучыся і да больш высокага ўзроўню ў валоданні абраным інструментам ці ў дырыжорскай справе. У рэальнасці ж "удасканальванне" падмяняецца напісаннем дысертацыі з відавочным рэгрэсам новага магістра ў прафесіі. А ці многаму навучыць "спецыяліст", які напіша і абароніць хай сабе некалькі дысертацый, калі ён амаль развучыўся граць і не меў дырыжорскага досведу? Як той інструктар па плаванні, што бегае беражком ды вучыць...

Навука (тэорыя) і практыка — два крылы, якія ўзнімаюць прафесіяналізм на вышыню. А інакш...

"Калі такая тэндэнцыя замацуецца ў новых правілах жыцця нашай ВНУ, дык давядзецца ў хуткім часе збіраць плады некампетэнтнасці, дылетантызму, прафанацыі ў музычнай культуры, творчасці, педагогіцы, — перакананы В. Новікаў. — Старэйшаму пакаленню музыкантаў будзе не за сябе — за дзяржаву крыўдна, калі такое здарыцца. Спадзяюся, цвярозая логіка ўсё ж дапаможа стваральнікам законаў будучага жыцця ВНУ не нарабіць непапраўных памылак. Тым болей, што і ў выступленнях кіраўніка нашай дзяржавы гучыць заклік больш поўна і своечасова выкарыстоўваць творчы патэнцыял беларускай інтэлігенцыі, удасканальваць сістэму падрыхтоўкі кадраў у ВНУ, сур'ёзна падысці да распрацоўкі і прыняцця законаў "Аб вышэйшай адукацыі" і "Аб спецыяльнай адукацыі".

Так, усе мае суразмоўцы ўважліва вывучылі Пасланне беларускаму народу і парламенту Рэспублікі Беларусь, з якім нядаўна выступіў А. Лукашэнка. Знайшлі нямала сугучнага сваім думкам. Прынамсі, тое, што "ў якасці важнейшай дзяржаўнай задачы" Прэзідэнт разглядае "стварэнне ўмоў для раскрыцця талентаў зямлі беларускай, для развіцця культуры". І тое, што "выключную ролю ў выхаванні грамадзяніна адыгрывае сістэма адукацыі", што "ў свядомасці людзей, асабліва маладых, павінны займаць трывалае месца ідэі нашай нацыянальнай самабытнасці, нашых гістарычных перамог і герояў". Застаецца толькі паўтарыць думку пра выключную ролю музыкі, пра місію духавых аркестраў у развіцці грамадства, у патрыятычным выхаванні моладзі.

Між іншым, Сцяпан Горын прапанаваў абмеркаваць праблему падрыхтоўкі ваенных дырыжораў для нашай краіны. Сёння Беларусь плаціць Расіі за навучанне сваіх маладых музыкантаў па гэтай спецыяльнасці, хаця ёсць усе перадумовы (нават распрацаваная дакументацыя), каб адкрыць адпаведнае аддзяленне ў Беларускім універсітэце культуры. Яшчэ праблема — стварэнне беларускай рытуальнай музыкі, нацыянальнага рэпертуару для вайсковых аркестраў, які не паўтараў бы "гучанне" парадаў на Краснай плошчы, а меў самабытнае, пазнавальнае аблічча... Словам, гаворка толькі пачалася і мусіць мець працяг.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

толь Казлоў, Алег Мінкін, Алесь Наварыч, Людміла Рублеўская, Міхась Скобла, Анатоль Сыс, Андрэй Федарэнка, Уладзімір Ягоўдзік...

У 1982 годзе галоўным рэдактарам часопіса становіцца Анатоль Грачанікаў.

*1990-я*




У 1995 годзе "Маладосць" на чале з галоўным рэдактарам Генрыхам Далідовічам, які займеў гэтую пасаду ў 1992 годзе пасля загадкавай смерці Анатоля Грачанікава, упершыню за ўсю гісторыю свайго існавання мусіла звярнуцца да чытачоў з просьбай аб дапамозе.

"Над "Маладосцю" навісае небяспека, — пісалася ў рэдакцыйным звароце, — не зважаючы на ўсё зробленае, дзяржава збіраецца фінансаваць выданне толькі часткова. Згуртуем, сябры, усе разам свае намаганні, знойдзем прыязныя ўстановы і калектывы, свядомых і высокадухоўных асоб-спонсараў, якія дапамогуць часопісу "Маладосць" і далей прысвячаць усё лепшае нашай моладзі".

Але гэта сітуацыю не выправіла: у 1990 годзе тыраж часопіса складаў амаль 10000 экз., у 1995 годзе — каля 6000 экз., а ў 1999-м — менш за 2000 экз.

Сярод найбольш адметных публікацый "Маладосці" 90-х асобнае месца займаюць дзённікі Ларысы Геніюш пад агульнай назвай "Споведзь", змешчаныя ў некалькіх нумарах за 1990 г. Часопіс друкуе аповесці "Імем Айца і Сына" (1993) Таісы Бондар, "Сатанінскі тур" (1993), "Адна на падмостках" (1994), "Крывінка" (1997), "Слаўся, Марыя!" (1999) Івана Шамякіна, "Расступіся, зямля" (1993) Уладзіміра Саламахі, "Блуканні па іншасвеце" (1994) Янкі Сіпакова ды многія іншыя творы.

Увогуле ж, прагледзеўшы архіў "Маладосці" 90-х, можна зазначыць: часопіс, бадай як ніколі раней, быў шчодры на "літаратурныя авансы". Толькі пералік ягоных дэбютантаў можа скласці даволі вялікі спіс. Сярод іх ёсць і тыя, на каго сёння ўскладаюцца вялікія надзеі: Янка Лайкоў, Таццяна Сівец, Таццяна Будовіч, Андрэй Паўлухін...

Аднак больш аб'ектыўную ацэнку творчасці тых, хто пачынаў свой шлях у літаратуру ў 90-я, можа даць толькі час.

*2000-я*




Новая старонка ў гісторыі "Маладосці" толькі пачынае запаўняцца. І якою ёй быць, залежыць не толькі ад рэдакцыі на чале з Раісай Баравіковай, якая ўзначаліла гэтае выданне ў 2002 годзе, але і ад аўтараў.

# ЛЯ ВОГНІШЧА

## Урывак з навелы



Іван ЧЫГРЫНАЎ

Уранні прыйшлі нашы — спачатку па зацішанскаму бальшаку прагрукаталі, ляскаючы жалезам, танкі, пасля, можа праз паўгадзіны, з-за пагорка паказалася пяхота. Калоны пехацінцаў павольна спускаліся ў нізінку, што перад вёскай, і адтуль, расцякаючыся, як ручаіны вясной, па лясных і палявых дарогах кіраваліся далей, к Бесядзі. У вёсцы тым часам дагаралі хаты.

Ля вясковых могілак ужо бегалі артылерысты. Там спынілася гаўбічная батарэя, і артылерыйскія разлікі ўстанаўлівалі гарматы, капалі акопы. За лесам, мусіць, ля самай Бесядзі, за якой акапаліся немцы, — там цяпер была перадавая, — неўзабаве пачуліся частыя вінтовачныя стрэлы: часам адтуль даносіліся і кулямётныя чэргі.

Гулі маторы. І гэты гул іхні то нарастаў, нібы станавіўся сцяною, то заціхаў, але заціхаў чамусьці раптоўна.

Па небе плылі нізкія хмары. Але дажджоў не было. І ўжо каторы дзень. Відаць, хмары былі бясплодныя.

На папялішчы патроху сыходзіліся людзі. Але ніхто не плакаў.

Салдаты ішлі к Бесядзі маўклівыя.

У сорак трэцім мы былі яшчэ зусім малыя, але запомнілі гэтых салдат... Мы — гэта Мішка Бычыхін , Санька Брылеў і я. У вёску тады мы першыя прыбеглі з лесу, і ўжо цэлага паўдня сядзелі ў сасняку ля школы, запаліўшы вогнішча. Школа ўцалела. Немцы чамусьці яе не зачапілі. Можа таму, што знаходзілася яна наводшыбе і была пад жалезным дахам. Паўз яе цяпер ішлі ў калонах салдаты. А мы сядзелі ля вогнішча і, як зачараваныя, моўчкі ўглядаліся ў іх загарэлыя, стомленыя твары. У кожнага з нас на вайне быў бацька. Дык і думалася — а можа, якраз і тупае бацька вось так у страі, і не пускаюць яго камандзіры дамоў.

Верасень быў на сконе. Бярозы на бальшаку страсалі сваё апошняе лісце — рана яно пажоўкла. Вецер гнаў яго па полі, збіраў на ўскрайку лесу. Было няўтульна, нават холадна. На папялішчах, нібы шкілеты, дзе-нідзе сталі адзінокія печы — тыя, што некалі клаліся без штандараў, адразу на зямлі. Печы былі яшчэ гарачыя.

Вогнішча наша дымела, сіпелі дровы. Часам да вогнішча падбягалі салдаты. Яны прыкурвалі "ад вугалька", гладзілі нас па галовах і, не распытваючы ні аб чым, спяшаліся даганяць сваіх. А гэтых "сваіх" было многа-многа!.. Нават здавалася, што якой-небудзь калоне канца-краю не будзе. Але праходзіў час, дарога раптам пусцела. Ды не надоўга. Хутка зноў чуўся тупат. І зноў пад вокнамі школы пачынала калыхацца маўклівая шэра-зялёная салдацкая калона. Ляскалі кацялкі. У нашых салдат яны былі вялікія і круглыя, бы каструлі, і, пэўна, замянялі ў паходзе, б'ючы па баку. Здаралася, што салдаты ішлі таксама невялікімі групамі. Але рэдка. Затое гэтыя амаль ніколі не абміналі наша вогнішча. А пад самы вечар, калі пачалі ўжо грамыхаць ля могілак гаўбіцы, у сасняку, дзе гарэла вогнішча, спыніліся артылерысты. Іх было чалавек дваццаць з адной-адзінай маленькай гарматкай, якую цягнулі коні. Відаць, гэта была якаясьці батарэя, — можа, нядаўна выйшла з бою і засталася без гармат. Коней артылерысты не распрагалі: павесілі ім пад пысы брызентавыя вёдры, і коні ляніва хрумсталі авёс.

Артылерысты аказаліся вясёлымі людзьмі — не тое, што змардаваныя пехацінцы. Яны тут жа сышліся да нашага вогнішча. Пачалі жартаваць, а адзін, чорны, мусіць, армянін — у рысах яго твару была дзіўная мешаніна дабрадушнасці і гарэзлівасці, — нібы прыліп да Санькі Брылева — дапытваўся, чаму ў таго рыжая галава.

— Выгарала, — казаў Санька.

Салдат паціскаў плячмі і хітра ўсміхаўся, пазіраючы на сваіх сяброў.

— На сонцы? — пытаўся ён.

— Ыгы, — Санька быў трохі старэйшы за Мішку і за мяне, але вельмі сарамлівы і нясмелы; салдаты лагодна смяяліся, а ён чырванеў, як дзяўчо. Затое самы наіўны сярод нас быў Мішка.

— У яго шапкі няма, — падказаў ён.

— Шапкі няма? – чорны артылерыст раптам перастаў смяяцца, задумаўся на момант і неўзабаве зноў пырснуў ад смеху: — Эй, Сідараў, — гукнуў ён, — тупай сюды!

Падышоў Сідараў — нізкі, надта тоўсты салдат, апрануты ў зашмальцаваны бушлат, які, пэўна, не адзін раз гарэў у яго, бо на правым баку тырчала пабурэлая вата. Сідараў быў салдат у гадах — яго нават можна было палічыць за старога. Відаць, ён не любіў шумных кампаній, бо мы яго ля вогнішча за колькі хвілін бачылі ўпершыню — увесь гэты час чалавек прасядзеў недзе пад сасной, схаваўшыся за гарматай.

— Паслухай, Сідараў, — звярнуўся да яго чорны артылерыст, — вось гэтаму меднаму кацялку, — ён паказаў на Саньку, — патрэбна шапка. Ты разумееш, у яго няма шапкі. А ў цябе, Сідараў, дзве... пілотка і вушанка. Я ўчора бачыў вушанку ў тваім мяшку. Ты вытрас бы з яго, а? Ну, Сідараў, не будзь жміндам, аддай хлопцу шапку.

Сідараў глянуў соннымі вачмі на Саньку, затым перавёў позірк на чорнага артылерыста.

— Дык я ж гэта для свайго сына, — неяк жаласна сказаў ён.

— Я так і знаў, што ты, Сідараў, пашкадуеш. І калі ты толькі станеш чалавекам, Сідараў, а? Ну, як ты аддасі сыну гэтую шапку? Ты, Сідараў, хутчэй на той свет трапіш, чым на Урал свой. На Урал цяпер дарога даўжэйшая. — Чорны артылерыст палохаў Сідарава і разам з тым упрошваў, папракаючы яго. — Ах, Сідараў, Сідараў... Каб жа я ведаў, што ты будзеш такі скупы, то не вывеў бы цябе з таго балота. Помніш?

Сідараў, можа, і помніў пра тое балота, але цяпер зацята маўчаў. Відаць было, што яму не хацелася аддаваць рыжаму падшывальцу шапку. Але ж гэты чорны прыстаў... Смала, а не чалавек... Ды Сідараў, напэўна, не ўмеў і агрызнуцца добра. А тут яшчэ салдаты шумелі.

— Аддай, Сідараў...

— Аддай...

— Навошта яна табе?..

— Сыну яшчэ адну такую знойдзеш...

— Пасля бою іх многа валяецца...

І скупы Сідараў не вытрымаў. Ён адышоў ад вогнішча, пакапаўся на возе, што стаяў блізка ад дарогі, прынёс адтуль памятую салдацкую шапку-вушанку і падаў яе чорнаму артылерысту.

— Насі, Санька, — сказаў чорны артылерыст і надзеў хлопцу на галаву шапку — яна была велікаватая для Санькавай галавы і налазіла на вочы. — Насі, Санька, — паўтарыў ён і прытворна ўздыхнуў. — Насі і ўспамінай мяне. Чуеш? Мяне! Сідарава ўспамінаць няма за што. Гэта ж, каб не я, не было б у цябе гэтай шапкі. Сідараў не даў бы. Гэта ўсё я. — Чорны артылерыст гаварыў сур'ёзна, але ў вачах усё яшчэ скакалі вясёлыя чорцікі.

"Маладосць" № 12, 1963 г.



Яўгенія Янішчыц

**Васіль ЗУЁНАК**



•

*Дзень і ноч,*
*дзень і ноч —*
*З сорак першага*
*па сорак пяты —*
*Дзень і ноч,*
*дзень і ноч*
*Паміралі салдаты...*

*Дзікім росчыркам куль*
*Смерць пісала*
*мажным, чарнабровым*
*Маладзіцам у красным вянку*
*Прыгавор неабвержны: "Удовы".*
*"Удовы",*
*"Удовы".*

*Прыгавор —*
*упрагацца ў плуг,*
*Хлеб сіроцкі дзяліць няспоры.*
*І разводзіць*
*— за кругам круг —*
*Па начах*
*бяссоннае гора.*

*Прыгавор —*
*на няроўны бой,*
*На бяскроўны,*
*бясслоўны,*
*зацяты,*
*На бой*
*з самой сабой...*
*Прыгажосць —*
*за краты...*

*Прыгавор...*
*А сэрца адно...*
*Хто*
*пякельныя раны загоіць?*
*...Адплывалі*
*ўспаміны*
*на дно...*
*Побач білася сэрца другое...*

*А над ёй,*
*а над ёй —*
*прыгавор*
*Кожны міг:*
*раптам грукнецца ў дзверы —*
*Незямны, маўклівы дакор:*
*"Я прыйшоў... Я так табе верыў..."*

*Прыгавор —*
*за гадамі гады...*
*І сыходзяцца рукі ля сэрца.*
*У вачах — два сляды, два сляды,*
*І ў дыханні апошнім: "Сустрэцца"...*

*Паміраюць удовы...*

**"Маладосць" № 3, 1967 г.**

**Раіса БАРАВІКОВА**



•

*Я — дзяўчынка на шары,*
*Што плыве у блакіце.*
*Над прасторам паўшар'я*
*Сонца ззяе ў зеніце.*
*Я нікому не ў цяжкасць,*
*Я — лёгкая, бы пушынка,*
*Што трапляе ў бязважкасць.*
*Я — на шары дзяўчынка.*
*Шар, вялікі, бязмежны,*
*У здзіўленні я кратаю.*
*Быццам белыя вежы,*
*Быццам чорныя кратэры,*
*Горы ззяюць снягамі*
*І дымяцца абшары*
*У мяне пад нагамі.*
*Я — дзяўчынка на шары.*

*Гляджу на сусвет бясстрашна*
*І — плыву ў сіняве...*
*Страціла б я раўнаважжа,*
*Ды мне шар не дае.*
*Яго сонцам сагрэта,*
*Я не падаю — дзіва:*
*Пада мною планета,*
*Што мяне нарадзіла.*

*Я ж — дзяўчынка на шары.*

**"Маладосць" № 3, 1968 г.**

**Алесь РАЗАНАЎ**



## ПАЧАТАК

*Усё хутчэй, усё хутчэй,*
*адчуўшы волю ад парога...*
*Так пачынаецца ручэй,*
*так пачынаецца дарога.*

*Неўладкаваных дзён разлад —*
*адчай у позірку — прыесца.*
*І немагчыма ўжо назад,*
*і немагчыма ўжо на месцы.*

*Туды — сабе наперакор, —*
*насустрач вечнаму расстанню,*
*дзе замыкаецца прастор,*
*дзе абрываецца хістанне.*

*Існі, мінаць вясновы тлум*
*і лістападу галашэнне*
*ад задумення да задум,*
*ад першых спроб да завяршэння.*

*Ў адзіны голас галасы*
*сальюцца, вымкнуць галасамі...*
*Так пачынаюцца лясы,*
*так пачынаемся мы самі.*

**"Маладосць" № 2, 1972 г.**



Іван Мележ і Максім Танк. 1973 год.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**



•

*Прыручаюць нават салаўёў —*
*Цёхкаюць у клетках безупынку.*
*Ды не тыя, што з лісця гаёў*
*Выпілі за песню па расінцы.*

*Прыручаюць нават салаўёў —*
*Пырхаюць у клетцы, ім не цесна.*
*Ды не тыя, што ў траве гаёў*
*Змайстравалі гнёзды новым песням.*

*Адзінотай мучаць салаўёў,*
*Песню пакаёвую ўручаюць.*
*Нават думку: "Выкралі з гаёў..." —*
*Дзесь у сэрцы прагна прыручаюць.*

**"Маладосць", № 8, 1975 г.**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**



•

**Жэні**

*Вяла задума да ракі.*
*У першабытным захапленні*
*Стаю: кляновыя лісткі*
*На фоне месяца. І цені*
*Святло сабой перапляталі*
*Ды прабягаюць часам лёгка*
*Па заспакоенай зямлі,*
*Па замаруджаных аблоках.*
*Мяжу ракі і вышыні*
*Не падзяліць там, дзе туману*
*Бялее покрыва... Ані*
*У хараstве няма падману!*
*Прырода стрымана маўчыць.*

*А дрэў навокал сілуэты,*
*Як сведкі гэтае начы,*
*Што не вярнуць...*
*І спее лета...*
*Ліпнёвы хмель у галаве,*
*І прахалодак студзіць скроні,*
*І нада мной каторы век*
*Плыве задуманая поўня.*

**"Маладосць" № 5, 1972 г.**



Выступае Мікола Ермаловіч.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



## НАВАЛЬНІЦА

*Насунецца чорная хмара.*
*Маланкі скрамсаюць лясы.*
*Знямеюць жаночыя твары.*
*Заціхнуць наўкол галасы.*

*І лівень лавінаю хлыне.*
*І змоўкне ў пабітых жытах.*
*І цёмная непагадзь згіне,*
*Развеяўшы немасць і страх.*

*Засвеціцца неба блакітам*
*З-за лесу зялёных павек,*
*І боль за пабітае жыта*
*Падкажа, што ты — чалавек.*

**"Маладосць" № 6, 1981 г.**



Пасяджэнне літаб'яднання пры БДУ. 1956 год.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**



# ДЗЕЦІ СВАЙГО СТАГОДДЗЯ

**ДА ЮБІЛЕЮ ЧАСОПІСА "МАЛАДОСЦЬ"**

*Ідзём на святы*
*ці на ўгодкі —*
*Блюзнёрамі не можам быць.*
*Нам прыклад падавалі продкі,*
*Як трэба родны край любіць.*

*І мы —*
*свайго стагоддзя дзеці, —*
*Як дрэвы ўласнаму галлю,*
*Давалі моц і больш у свеце*
*Любілі ўсе сваю зямлю, —*

*З яе палямі і лясамі,*
*Прыродай і красою ўсёй,*
*І мовай матчынай.*
*Мы самі*
*Пісалі вершы ўжо на ёй.*

*Нам хмары засланялі далі,*
*Ў змрок плывучы над старaной.*
*А мы "Праўдыра"*
*ўслаўлялі,*
*Што ўсіх ахутваў нас маной...*

*Цяпер мінулага падзеі*
*Больш праяснелі*
*праз гады.*
*Але на лепшае надзеі*
*Мы не гублялі і тады.*

*І маладога нам запалу*
*Сам час у душы прыбаўляў.*
*Мы ўсе глядзелі*
*на Купалу —*
*Як на прарока многіх з'яў.*

*І сам пясняр у часе бурным*
*Сачыў за ростам маладых.*

*Часцей усё ў літаратуры*
*З'яўляліся імёны іх.*

*Хоць шчэ далёка*
*да стварэння*
*Было выдання "Маладосць", —*
*Мы ведалі,*
*што ёсць натхненне*
*І наша мова ў свеце ёсць.*

*За свой духоўны ўзлёт, здаецца,*
*Усёй грамадой мы рэй вялі.*
*І маладымі*
*з выдавецтва*
*З сваімі кнігамі ішлі.*

*У бібліятэкі нат сталіцы*
*Мы іх прыносілі з сабой, —*
*Не для таго,*
*каб пахваліцца,*
*З махлярствам уступіўшы ў бой,*

*А каб з найлепшым пажаданнем*
*Сяброўкам падарыць сваім,*
*Бо кожны верш*
*гарэў каханнем,*
*Прысвечаны ад сэрца ім.*

*Ніхто,*
*узяўшы на парукі,*
*Дарма нічога не дае.*
*Але старэйшыя нам рукі*
*У шляху працягвалі свае, —*

*Такім жа,*
*як яны адданым*
*Радзімы дочкам і сынам.*
*І асабліва — як жаданым*
*Стаў малады часопіс нам.*

*Ту нас падтрымлівалі з тактам*
*Усіх,*
*хто з творамі ішоў,*
*І чулы Панчанка —*
*рэдактар,*
*І нат нештатны*
*Куляшоў.*

*Не кожны наш мо адмыслова*
*Гучэў радок*
*ці цэлы сказ, —*
*Мы ж ведалі,*
*што Богам слова*
*Навекі дадзена для нас.*

*Мы не расхвальвалі кагосьці, —*
*Ды ганарыцца ўсе маглі,*
*Што нашы творы ў "Маладосці"*
*Усе змешчаны найперш былі.*

**3 красавіка 2003 г.**

---

**Ірына ПОЎХ**



•
*Ноччу для неба вуаль*
*выткалі хмары.*

*У горадзе гэтым, на жаль,*
*забаронена марыць.*
*У горадзе, дзе ліхтары*
*парасплюшчвалі вочы,*
*сонца даўно не гарыць,*
*дождж па вуліцах крочыць.*
*Ты не глядзі ў акно:*
*там жывёліны ў масках,*
*у горадзе гэтым даўно*
*забаронена казка.*
*Натоўп спачувальных слоў*
*напрасіўся ў госці.*
*Я ў горадзе гэтым ізноў*
*не сустрэла кагосьці.*
*Ноччу для неба вуаль*
*выткалі хмары.*
*У горадзе гэтым, на жаль,*
*забаронена*
*марыць...*

**"Маладосць" № 3, 2003 г.**



Пасяджэнне суполкі "Літаратурны квартал".
**Фота К. ДРОБАВА, Ул. КРУКА, з архіва і старонак "Маладосці".**

## ДАНІНА ПАВАГІ

***Народны артыст Беларусі Павел Дубашынскі,***
***паэт, празаік, драматург Артур Вольскі,***
***рэжысёр Андрэй Андросік, —***
***усе гэтыя творцы пэўны час свайго жыцця служылі (а ў тэатры менавіта служаць, а не працуюць) у Тэатры юнага гледача.***
***Кожны з іх быў адметны сваім непаўторным талентам — што толькі ад Бога даецца, непадобным да іншых мастакоў: са сваім сцэнічным, паэтычным голасам, рэжысёрскім малюнкам творчага ўвасаблення спектакля.***
***След, які яны пакінулі ў мастацтве нашай краіны, уздымае іх на тую вышыню ВАРТАСЦІ, каб аддаць ім павагу шчырымі словамі памяці ў светлы памінальны дзень Радаўніцы.***

**Анатоль ЖУК**

•

**памяці Паўла ДУБАШЫНСКАГА**



*Ах, Павел Піліпавіч,*
*Павел Піліпавіч!*
*Сэрца так цяжка рыдае і хліпае.*
*Якім жа анёлам былі благаслаўлёны*
*На гэткі палёт да нябёс невядомых?*
*Нястомнік бунтарскага*
*й трапнага слова,*
*Чаму ж вы з жыцця ўзняліся сурова?*
*Пакінулі травень...*
*і чэрвень...*
*і студзень...*
*І штосьці зусім невыказнае*
*ў людзях...*
*Да Бога, ці што,*
*захацелася блізкасці?*
*Ужо невыносным цемры заціснуты,*
*Ужо абяскрылены і абязвераны*
*Чырвонай і чорнай смярдзючай*
*хімерай.*
*Ах, Павел Піліпавіч,*
*Павел Піліпавіч!*
*Ці стрэне Гасподзь вас*
*пад Боскаю ліпаю?*
*Ці сядзеце разам, ці чарку нальеце*
*За вашую вечнасць*
*на Боскай планеце?*
*Ці ўспомніце нас,*
*ці памянеце грэшных*
*За, вашай падобную,*
*нашу няўцечнасць?*

•

**памяці Андрэя АНДРОСІКА**



*Вось і ўсё!*
*Толькі Памяць і Слова...*
*Толькі Дух, што ў душах жывых,*
*Загучаў ціхай зорнаю мовай,*
*Ажыўляючы Зрок наш і Слых.*

*Толькі Сонца без плямін і ценю,*
*Веры,*
*Годнасці,*
*Існасці Храм.*
*Стаць бы нам перад ім на калені,*
*Як прад бацькам*
*аблудным сынам,*
*За ўсе заўтра,*
*што промнем надзеі*
*Асвятліў нам той час ад задухі.*
*Вось і ўсё!*
*А яшчэ "дабрадзеі",*
*Што так страсна жадалі макрухі.*

*Што ж, і тут, пэўна,*
*Боская воля.*

*Шлях Гасподні —*
*высокі, астральны.*
*Ды адно не развеецца ў полі*
*Нашай Памяці Крыж Памінальны.*

•

**памяці Артура ВОЛЬСКАГА**



*Твой корань*
*ідзе ад Волі.*
*Воль-скі! —*
*Гучыць як Вольнасць.*
*Божа — якая доля!*
*А ў долі тваёй прыстойнасць.*
*Каб толькі такога свету,*
*Дажджынкай скупою*
*і строгай,*
*Былі б мы многія леты,*
*Імем Святога Бога*
*Апетыя і ўшанаваныя...*
*І сэрца тваё звоннае*
*Не крывавіла б ранай*
*За васілёк улюбёны.*
*Даруй,*
*што не ўмеем...*
*Бо маем адно*
*толькі вечнае —*
*Веру,*
*Любоў,*
*Надзею, —*
*Як ты іх нёс, чалавеча.*

*Як нёс!*
*Ды ўжо не сёння...*
*...А ў краі звініць пагоня...*



## АКЦЭНТ

25-годдзю кафедры харэаграфіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры прысвечаўся вялікі канцэрт, наладжаны ў Палацы культуры чыгуначнікаў. Тры гадзіны доўжылася гэта маляўнічае святочнае відовішча, пра якое мы распавядзём у адным з бліжэйшых нумароў "ЛіМа". Падзівіцца было на што — нібы пераконвае фрагмент канцэртнай праграмы, адлюстраваны ў здымку...

С. Б.

ФОТА К. ДРОБАВА

# ЗНОЎ СУСТРЭЧЫ!

*З 14 па 18 мая ў Гомелі* **пройдзе VII Міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы". Несумненна, для ўсіх аматараў тэатральнага мастацтва гэта сапраўдная падзея, свята, бо апошні фэст праходзіў аж тры гады таму. Як і раней у вядомым фестывалі, які ў 1997 годзе быў узяты пад патранаж Міністэрства культуры РБ, прымуць удзел сталічныя, а таксама абласныя тэатры Беларусі, Расіі, Украіны. Па традыцыі ўсе спектаклі будуць разыграны на сцэнах Гомельскага абласнога драматычнага тэатра і Гомельскага гарадскога маладзёжнага эксперыментальнага тэатра-студыі.**

В. Б.




Выходзіць З 1932 ГОДА
У 1982 годзе
ўзнагароджаны ордэнам
Дружбы народаў

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

Вольга **БАРАБАНШЧЫКАВА,**

Святлана **БЕРАСЦЕНЬ,**

Леанід **ГАЛУБОВІЧ,**

Алесь **ГАЎРОН —** адказны сакратар,

Людміла **РУБЛЕЎСКАЯ,**

Уладзімір **САЛАМАХА —** намеснік галоўнага рэдактара



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19
**ТЭЛЕФОНЫ:**
намеснік галоўнага рэдактара — 284-44-04

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-4991
Тэл./факс — 284-85-25

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1705
Нумар падпісаны ў друк 29.04.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1081

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


## ПАСПЯШАЙ!

# ЧАРАЎНІКІ СЦЭНЫ І ЭКРАНА

**Усе, хто неабыякавы да тэатра ці кіно, — спяшайцеся! Сёння апошні дзень працы Рэспубліканскай выставы твораў мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання "Чараўнікі сцэны і экрана". Экспазіцыю, што размясцілася на трэцім паверсе сталічнага Палаца мастацтваў, можна лічыць нешараговай не толькі таму, што апошняя падобная выстава ладзілася ў нас каля пятнаццаці год таму, але ў першую чаргу з-за яе маштабнасці і вялікай колькасці самых найноўшых прац айчынных сцэнографаў, мастакоў і аніматараў. Напрыклад, тут можна пабачыць макет да спектакля "Дзівакі" (аўтар – А. Снапок-Сарокіна), прэм'ера якога адбылася толькі-толькі.**

**Выстава ўражвае разнастайнасцю сваёй экспазіцыі. Тут сабраны эскізы дэкарацый і касцюмаў да самых розных спектакляў і кінастужак, макеты тэатральных спектакляў, афішы, лялькі, касцюмы, раскадроўкі мультыплікацыйных стужак... Можна гадзінамі**



**пераходзіць ад стэнда да стэнда, углядаючыся ў ювелірныя дэталі макетаў і дзівячыся неабсяжнай фантазіі творцаў, параўноўваючы задуму з яе рэалізацыяй. У экспазіцыю трапілі працы і прызнаных майстроў, такіх, як Д. Мохаў, Я. Ждан, Ю. Тур, У. Дзяменцьеў, В. Цімафееў, і маладых, але яркіх мастакоў Д. Волкавай, А. Снапок–Сарокінай, Т. Нерсіян. Шкада толькі, што на выставе не былі прадстаўлены працы двух знакамітых тэатральных сцэнографаў Беларусі – Б.Герлавана і З. Марголіна, з чыімі імёнамі звязаны многія каштоўныя набыткі айчыннага тэатра. Але ў цэлым выстава засведчыла – нашымі "чараўнікамі", якія з дапамогай алоўка, фарбаў і падручнага матэрыялу ствараюць свае непаўторныя сусветы, можна ганарыцца і захапляцца. Вось толькі каб бачыць іх стварэнні часцей, чым раз у пятнаццаць год...**

Юлія ПАЛАЧАНІНА

## АФІША МАЯ



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

**2** — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
**4** — П. Чайкоўскі "Лебядзінае возера"
**7** — Г. Геропьд "Марная перасцярога" (прэм'ера)
**11 (раніца і вечар)** — Ц. Пуні "Эсмеральда"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

**3, 4** — XII Велікодны фестываль. Велікоднае турнэ Расійскага нацыянальнага аркестра, канцэрты, прысвечаныя 100-годдзю І. Салярцінскага
**8** — Канцэрт саліста Беларускай оперы і Марыінскага тэатра (Санкт-Пецярбург) Сяргея ДРАБЫШЭЎСКАГА

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
**вул. Мяснікова, 44, тэл. 220-81-26, 220-92-54**

**2** — І. Кальман "Прынцэса цырка"
**3** — І. Штраус "Цыганскі барон"
**4 (раніца)** — І. Левін "Айбаліт—2002", мюзікл
**4 (вечар)** — І. Штраус "Ноч у Венецыі", карнавал
**7** — Вечар балета: М. Рымскі-Корсакаў "Шахеразада", на музыку М. Равеля ("Балеро") "Новыя амазонкі"
**8** — К. Лістоў "Севастопальскі вальс"
**10** — О. Штраус "Капялюш Напалеона", аперэта
**11 (раніца)** — С. Баневіч "Трывушчы алавяны салдацік"
**11 (вечар)** — І. Штраус "Лятучая мыш", аперэта
**13** — А. Адан "Жызель", балет
**14, 15, 16** — А. Рыбнікаў "Юнона" і "Авось", рок-опера
**11 (вечар)** — І. Штраус "Лятучая мыш", аперэта

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17**

**2** — А. Дудараў "Кім", "крымінальная меладрама"
**3, 16** — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж", камедыя (прэм'ера)
**4** — Я. Купала "Паўлінка"
**5** — А. Дзялендзік "Смак яблыка", камедыя
**7, 8** — А. Дудараў "Чорная панна Нясвіжа", містычная легенда аб каханні

**Малая сцэна**
**вул. Энгельса,12**

**5** — С. Кавалёў "Саламея", летапіс кахання
**8** — М. Сайман "Я не пакіну цябе..." (прэм'ера)
**10** — А. Папова "Муж для паэтэсы"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Вялікая сцэна**

**3** — "Амфітрыён", інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў
**10** — А. Дудараў "У прыцемках"
**11** — Велікодны фестываль на Беларусі

**Малая сцэна**

**4** — Ж.-К. Брысвіль "Вячэра", драма

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

**2** — Я. Таганаў "Адэль", гісторыя кахання.
**3** — А. Курэйчык "Понцій Пілат"
**4** — М. Адамчык, М. Клімковіч "Чорны квадрат"
**7** — А. Шчуцкі "Калаchнікі", трагікамедыя (прэм'ера)
**8** — С. Кавалёў "Балада пра Бландою", сцэны нянавісці і кахання

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**



**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даўмана,1, тэл.289-32-62**

**2, 15** — Б. Шоу "Пігмаліён", раман
**3, 11, 14** — У. Шэкспір "Жарсці ў Віндзоры", камедыя
**4** — А. Астроўскі "Позняе каханне"
**8** — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава,13, тэл. 223-08-11**

**2** — Ф. Саган "Стрэмка" (прэм'ера)
**3, 4** — А. Астроўскі "Таленты і прыхільнікі"
**7, 8** — Э. дэ Філіпа "Філумена Мартурана"
**13, 14** — Г. Салоўскі "Востраў нашай любові і надзеі", праўдзівая казка для дарослых
**15** — "Айседора. Танец кахання", лірычная драма
**16** — Е. Міровіч "Тэатр купца Япішкіна", сатыра

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч"**
**У касцёле св. Сымона і Алены (пл. Незалежнасці, 15)**

**2** — Творчая вечарына паэта С. Панізніка
**12** — "Нобіль, барвяны ўладар", монаспектакль паводле твора У. Караткевіча "Сівая легенда"
**15** — Я. Купала "Мне сняцца сны аб Беларусі..."

*НА ЗДЫМКУ: сцэна з балета "Марная перасцярога".*

**ФОТА К. ДРОБАВА**

**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ**
**(пр. Ф. Скарыны, 44а)**

**5 — Лаўрэаты міжнародных конкурсаў А. Кісялёў (віяланчэль), А. Музыкантаў (фартэпіяна).** Клас камернага ансамбля У. Перліна. Творы Баха, Брамса, Пракоф'ева, П'яцолы.

**8 — Скрыпічная музыка.** Студэнты Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі Н. Сопелева (скрыпка) і А. Баравікоў (фартэпіяна). Гучаць Бах, Шуберт, Шастаковіч, Вяняўскі ды інш.

**12 — Арганіст К. Шараў.** Творы Баха, Букстэхудэ ды інш. Музыказнаўца В. Савіцкая.

**13 — Вечар вакальнай і фартэпіяннай музыкі** Пракоф'ева, Шастаковіча, Альбеніса, Мінкова. Выканаўцы Л. Лазарава (мецца-сапрана, Масква) і Т. Старчанка (фартэпіяна).

**15 — "Сілуэты сучасных польскіх кампазітараў".** Вядомы цыкл працягвае аўтарскі канцэрт З. Буярскага. Прэм'ера яго твораў падрыхтавана да 70-годдзя кампазітара Ансамблем салістаў "Класік-Авангард". Мастацкі кіраўнік У. Байдаў.

**16 — Дуэт віяланчэліста Л. Андрадэ (Партугалія) і А. Бяляева (фартэпіяна).** У праграме творы Чайкоўскага, Шуберта, Паганіні, Капыцько, А. Бяляева.

**БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ**
**Вялікая зала**
**(вул. Інтэрнацыянальная, 30)**

**2 — Канцэрт студэнтаў** класа прафесара Л. Шаламенцавай (фартэпіяна).

**3 — Граюць студэнты-піяністы.** Клас Л. Тэр-Мінасян.

**7 — Выпускнікі кафедры канцэртмайстарскага майстэрства акампануюць вакалістам.**

**8 — Клас фартэпіяна** Т. Валадзько прадстаўляюць выпускнікі В. Масько, А. Давыдава, В. Гурчанава. У праграме ўдзельнічае выкладчык С. Тургель. Прагучаць творы Баха, Бетховена, Лядава, Глазунова, Шчадрына, Скрабіна.

**10 — Вечар фартэпіяннай музыкі.** Клас А. Хімчанкі пры ўдзеле выкладчыка С. Тургеля. У праграме Бетховен, Бах, Шуман, Чайкоўскі, Шастаковіч.

**13 — Граюць выпускнікі-піяністы** класа М. Русаковай: К. Марцірасян, С. Родзіч, Ляо Жуй Цзэ, Ю Хуэй. Музыка Баха, Моцарта, Шумана, Шапэна, Сен-Санса, Дэбюсі ды інш.

**14 — Аркестр рускіх народных інструментаў Магілёўскай абласной філармоніі.** Мастацкі кіраўнік і дырыжор — Л. Іваноў.

**Малая зала**
**(вул. Чычэрына, 5)**

**2 — Гучыць габой.** Выхаванцы класа Н. Рананскай: А. Ліпніцкі, А. Аўсеева, С. Спірыдонава, М. Расоха, К. Валадкевіч, А. Беранкова. Творы Вівальдзі, Баха, Гендэля, Тэлемана ды інш.

**5 — Студэнты-скрыпачы** ў канцэрце, прысвечаным 110-годдзю з дня нараджэння заснавальніка кафедры, заслужанага артыста Беларусі прафесара А. Бяссмертнага.

**Тэл. для даведак: 206-59-62.**

Наступны нумар газеты "ЛіМ" выйдзе 16 мая.